VERTIGO

FREE PREVIEW OF

**PETER & MAX: A FABLES NOVEL**

#1

$1.00 U.S.

# FABLES

## SPECIAL EDITION

Willingham • Medina

Leialoha • Hamilton

**FEATURES THE FIRST CHAPTER OF THE FABLES VOL.1: LEGENDS IN EXILE GRAPHIC NOVEL**

DIRECT SALES







SUGGESTED FOR MATURE READERS

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**Т.Г. (#1-3)**
**АЛЕНА ВАСІЛЬКОВА (#4-5)**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ**
**КОЗЫРАЎ**

# 1






















VERTIGO ISSUE 1 BILL WILLINGHAM LAN MEDINA STEVE LEIALOHA
July 2002 2.50 can 4.25
LEGENDS IN EXILE
SUGGESTED FOR MATURE READERS

FABLES

DIRECT SALES
dccomics.com

BY COMICS

ПАДАННІ #1 (2002) ПЕРАКЛАД Т.Г.

FABLES

VERTIGO

ISSUE 1 JULY 2002 2.50 can 4.25

BILL WILLINGHAM
LAN MEDINA
STEVE LEIALOHA

LEGENDS IN EXILE

SUGGESTED FOR MATURE READERS

BY COMICS

ПАДАННІ #1 (2002). ПЕРАКЛАД Т.Г.










# Глава першая: Вяртанне да старых казак

У якой мы сустракаем многіх з нашых галоўных герояў і атрымліваем першыя падказкі пра тыя хуткія беды, што чакаюць наперадзе.

Сцэнар - Біл Уілінгхэм, малюнак - Лэн Медына, чарніла - Сціў Лэйалоа, шрыфт - Тод Кляйн, колер - Шэрылін Ван Валкенберг, вокладка - Джэймс Джын і Алекс Малееў, ас.радактара - Марыя Хохнэр, радактар - Шэллі Бонд. Ідэя Паданняў - Біл Уілінгхэм.


FABLES 1, July, 2002. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to FABLES, DC Comics Subscriptions, PO. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. Subscriptions to this title are offered only to readers who attest they are 18 years of age or older, or with written parental approval to readers under 18 years of age.



Printed in Canada.

DC Comics. A division of Warner Bros. - An AOL Time Warner Company




Раскошныя Апартаменты Вудлэнд




БОЖА МОЙ, НЯЎЖО ГЭТА ДЖЭК? З УСІХ ЛЮДЗЕЙ Я НЕ ЧАКАЎ СУСТРЭЦЬ ВАС СЁННЯ. МЫ ДАЎНЮТКА НЕ БАЧЫЛІ ВАС ТУТ, СЭР.
ПРЫВІТАННЕ, ДЖОНІ.


ДЖЭК!
ЯК СПРАВЫ, ДРУЖА?
СПЯШАЮСЯ!


Офісы Кіравання


Дырэкцыя
Б.Снежка


БОЗЛІ!
Аддзел бяспекі
Б.Воўк


ВІДАЦЬ, ТЫ ЗАДЫХАЎСЯ, ДЖЭК. ІЗНОЎ ЛАЗІЎ ПА БАБОВЫХ СЦЕБЛАХ?
ФУФ...ФУФ... НЕ.


ЗДЗЮВАЎ ХАТКІ ПАРАСЯТАЎ НЯДАЎНА?


Я ТРОХІ ЗАНЯТЫ, ДЖЭК. ТЫ БЕГ СЮДЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПАЖАРТАВАЦЬ? ЦІ ТАБЕ ЯШЧЭ ШТО-НЕБУДЗЬ ТРЭБА?
ЗДАРЫЛАСЯ... АДБЫЛАСЯ... ЖУДАСНАЯ РЭЧ... ЗЛАЧЫНСТВА...
АДБЫЛОСЯ НЕШТА ЖУДАСНАЕ.


Дырэкцыя
Б.Снежка
АДЗІНАЯ ПРАБЛЕМА, ПРАМА ДАТЫЧНАЯ МЯНЕ І ГЭТАЙ ДЫРЭКЦЫІ, ГЭТА НАКОЛЬКІ ЖАХЛІВА ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ У АПОШНІ ЧАС.


ГЭТА НЕ МАЯ ФІНА! ГЭТЫ ЗНОЎ СТАРАФЫТНЫ ПРАКЛЁН!
ЯНО ЗНІКЛА, КАЛІ МАЯ ФОНКА ПАГАДЗІЛАСЯ ФЫЙСЦІ ЗА МЯНЕ ЗАМУФ, АЛЕ ЦЯПЕР ЯНО ПРЫХОДЗІЦЬ І СЫХОДЗІЦЬ.
ЧУЕЦЕ? Я КАЗАЛА, ШТО ЁН БУДЗЕ ВІНАВАЦІЦЬ МЯНЕ!


Я НЕ ФІНАФАЧУ ЦЯБЕ, ДАРАГАЯ, АЛЕ Я ПЕРАТФАРАЮСЯ Ў ПАЧФАРУ, КАЛІ ТЫ ЗЛУЕШСЯ НА МЯНЕ.




БЫЛО Б ПРАСЦЕЙ ЛОРД-ПАЧВАРА, КАЛІ Б Я МАГЛА ЛЕПШ РАЗУМЕЦЬ ВАС.
ЁН СКАЗАЎ, ШТО ЯГО ПРАКЛЁН ІЗНОЎ ВЫЯЎЛЯЕ СЯБЕ, ГЭТАК ЖА МОЦНА, ЯК Я ЗЛУЮСЯ НА ЯГО.


АЛЕ ВЫ ПАСПРАБУЙЦЕ ПРАЖЫЦЬ У ШЛЮБЕ АМАЛЬ ТЫСЯЧУ ГАДОЎ БЕЗ УЗДЫМАЎ І СПАДАЎ НА ШЛЯХУ.
НІХТО НЕ МОЖА БЫЦЬ АБСАЛЮТНА ШЧАСЛІВЫ І БЛАЖЭННА ЗАКАХАНЫ ТАК ДОЎГА.


ЯШЧЭ ГЭТЫ ПЕРАХОДНЫ ПЕФЫЯД. МАЕ ІКЛЫ ФЫРАСЛІ, АЛЕ МОЙ РОТ ЯФЧЭ НЕ ФЫРАС ДОСЫЦЬ ВЯЛІКІМ, КАБ МЯСЦІЦЬ ІХ.
ФОСЬ Я І КАЖУ ГАРКАФА.


ЯК БЫ Я НІ ШКАДАВАЛА ПРА ВАШЫ СЯМЕЙНЫЯ "ЦЯЖКАСЦІ", ГЭТА НЕ МАЯ СПРАВА. У НАС ЛЕДЗЬ ХАПАЕ ГРОШАЙ І ЛЮДЗЕЙ, КАБ ПАДАВАЦЬ АСНОЎНЫЯ ПАДПОЛЬНЫЯ ЎРАДАВЫЯ ПАСЛУГІ.
МЫ НЕ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ ПРАВОДЗІЦЬ СЯМЕЙНЫЯ КАНСУЛЬТАЦЫІ, І, АБСАЛЮТНА АДКРЫТА, Я Б НЕ ДАЗВОЛІЛА ГЭТАГА, НАВАТ КАЛІ Б МЫ МАГЛІ.


ЗВЫЧАЙНЫЯ МОГУЦЬ ШУКАЦЬ У СВАЙГО ЎРАДА РАШЭННЯЎ СВАІХ ПРАБЛЕМ, АЛЕ Ў КАЗАЧНЫМ ГРАМАДСТВЕ МЫ ЧАКАЕМ АД ВАС, ШТО ВЫ ЗМОЖАЦЕ САМІ КІРАВАЦЬ СВАІМ ЖЫЦЦЁМ.
НАШ АДЗІНЫ КЛОПАТ ЦЯПЕР ТОЕ, ШТО ВЫ ПАРУШАЕЦЕ НАШ САМЫ ВАЖНЫ ЗАКОН: НІВОДНАЯ КАЗАЧНАЯ ІСТОТА НЕ ПАВІННА ДЗЕЯННЕМ ЦІ БЯЗДЗЕЙНАСЦЮ ВЫЯВІЦЬ НАШУ МАГІЧНУЮ ПРЫРОДУ ЗВЫЧАЙНАМУ СВЕТУ.


КАЛІ ВЫ НЕ МОЖАЦЕ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ЗВЫЧАЙНУЮ ЧАЛАВЕЧУЮ ЗНЕШНАСЦЬ ЦІ КУПІЦЬ МАСКІРАВАЛЬЯ ЧАРЫ Ў АДНОЙ З НАШЫХ ВЕДЗЬМАЎ...
...НАШЫ ПРАВІЛЫ АБВЯШЧАЮЦЬ, ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ ПЕРАМЕШЧАНЫ НА ПОЎНАЧ ШТАТА НА ФЕРМУ, ДЗЕ ЖЫВУЦЬ УСЕ АСТАТНІЯ НЕЧАЛАВЕЧЫЯ КАЗАЧНЫЯ ІСТОТЫ.


АЛЕ МЫ БЕГЛІ З НАШАЙ РАДЗІМЫ БЕЗ ГРОШАЙ! МЫ НЕ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ЧАРЫ ДОСЫЦЬ МАЦНЫЯ, КАБ СХАВАЦЬ ПРАКЛЁН МАЙГО МУЖА. МЫ ЛЕДЗЬ КАНЦЫ СТОЧВАЕМ.
І ГЭТА ТЫЯ ЧОРТАФЫЯ ГРАШОФЫЯ ПРАБЛЕМЫ, З-ЗА ЯКІХ Ў НАС СЯМЕЙНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ І ПРАКЛЁН ФЯРТАЮЦЦА.


ЯК БЫ Я НІ СПАЧУВАЛА ВАШЫМ БЕДАМ, Я БОЛЬШ НЕ МАГУ ВАМ ДАПАМАГЧЫ.
ШМАТЛІКІЯ З ПАДАННЯЎ... Я НАВАТ СКАЖУ БОЛЬШАСЦЬ З НАС... СТРАЦІЛІ СВАЕ ЗЕМЛІ, ТЫТУЛЫ І БАГАЦЦЕ, КАЛІ ВОРАГ ПРЫМУСІЎ НАС БЕГЧЫ.
МЫ ПАВІННЫ ЗМАГАЦЦА НА ЎСЕ ЖЫЛЫ.

ТОЛЬКІ НЕКАТОРЫЯ З НАС ПРАЦУЮЦЬ У ПАДПОЛЬНЫМ КІРАВАННІ ПАДАННЯЎ, У НАС УЖО СУР'ЁЗНАЯ ПЕРАГРУЗКА І НЕДАСТАТКОВАЯ ЗАРПЛАТА, І ГЭТА ЎСЁ, ШТО МЫ МОЖАМ РАБІЦЬ ДЛЯ НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ ВЫГНАННІКАЎ, КАБ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ.

У НАС НАВАТ НЯМА МАГЧЫМАСЦЯЎ ЗБІРАЦЬ ПАДАТКІ З НАШЫХ ЧАЛЬЦОЎ, МЫ ТРЫМАЕМСЯ НА ДОБРААХВОТНЫХ УНЁСКАХ, І ПАЛОВУ ЧАСУ ПРАВОДЗІМ СТОЯЧЫ НА КАЛЕНАХ, ЖАБРУЮЧЫ І ЦАЛУЮЧЫ АЗАДКІ, КАБ АТРЫМАЦЬ ІСНЫЯ КАПЕЙКІ.

ТАК ШТО, КАЛІ ЛАСКА, ВЕРЦЕ МНЕ. Я НЕ МАГУ ДАПАМАГЧЫ ВАМ РАЗАБРАЦЦА З ГЭТАЙ СІТУАЦЫЯЙ.

ФЫ НАСАМРЭЧ НЕ МЭР.

ТАК, Я І ПРАЎДА НЕ МЭР ФЭЙБЛТАУНА, ТОЛЬКІ НАМЕСНІК. І КАЛІ ВЫ ЖАДАЕЦЕ ПРЫЗНАЧЫЦЬ СУСТРЭЧУ, КАБ НЫЦЬ ПРАМА ПЕРАД КАРАЛЁМ, ГЭТА ВАША ПРАВА.

АЛЕ Я РАСПАВЯДУ, ШТО БУДЗЕ. ЁН ВЫСЛУХАЕ ВАС І ЯК НАЛЕЖЫЦЬ СПАГАДЛІВА ЦЫКНЕ ВАШАЙ БЯДЗЕ – І ЯГО СПАГАДА БУДЗЕ САПРАЎДНАЙ, ТАМУ ШТО ЁН ЧУЛЫ, ЭМАЦЫЙНЫ ЧАЛАВЕК.

А ПОТЫМ, ЯК ТОЛЬКІ ВЫ ВЫЙДЗЕЦЕ ЗА ДЗВЕРЫ, ЁН СПЫТАЕ МЯНЕ, ШТО Я БУДУ З ГЭТЫМ РАБІЦЬ. БО МЫ ТАК ПРАЦУЕМ. НА ІМ УСЕ ФАРМАЛЬНЫЯ РЭВЕРАНСЫ, АФІЦЫЙНЫЯ ВЫСТУПЫ І ЦЫРЫМОНІІ. А Я ВЫКОНВАЮ САПРАЎДНУЮ ПРАЦУ ПА ПАДТРЫМАННІ НАШАГА ГРАМАДСТВА.





















*ПАСТУШОК (BLUE BOY)- ПЕРСАНАЖ СТАРА-АНГЕЛЬСКАЙ КАЛЫХАНКІ.







Gottfrieds
STEAK HOUSE
ВАМ ПАДАБАЕЦЦА ВАШ АБЕД, СЭР?
ВЕЛЬМІ. ДЗЯКУЙ, МОЛІ.


А ЯК ВЫ ЗНАХОДЗІЦЕ СВОЙ СТЕЙК?
Я ПРОСТА ЗАЗІРНУЎ ПАД БУЛЬБАЧКУ, А ЁН ТАМ.




ГЭТА ВЫДАТНАЯ ІДЭЯ, ДАРАГАЯ МІС МОЛІ, АЛЕ Я БАЮСЯ, ШТО ПРЫЧЫНЮ НЕКАТОРЫЯ НЯЗРУЧНАСЦІ.
У МЯНЕ НЯМА НІ ПЕНІ, І Я ЗБІРАЮСЯ ВЫСЛІЗНУЦЬ НЕ ЗАПЛАЦІЎШЫ.
АЛЕ КАЛІ Я ПРАВОДЖУ ВАС... МЫ АПЫНЁМСЯ Ў ВЕЛЬМІ ДАЛІКАТНАЙ СІТУАЦЫІ.


ПРАЎДА? У ВАС НЯМА ГРОШАЙ?
АБСАЛЮТНА І ЗУСІМ.
АЛЕ ВЫ Б ЖАДАЛІ ЗБЕГЧЫ СА МНОЙ?
ГЭТА МАЁ САМАЕ ЗАПАВЕТНАЕ ЖАДАННЕ.


НУ, ТАДЫ Я МАГУ АПЛАЦІЦЬ ГЭТЫ РАХУНАК, УСЁ АДНО Я Б З ІМ ЗАТРЫМАЛАСЯ, КАЛІ Б ВЫ ЗБЕГЛІ.
ВЫ МІЛАЯ ДЗЯЎЧЫНА, МОЛІ. Я ЎЖО КАХАЮ ВАС.


ПАКОЛЬКІ МЫ ЎСЯГО Ў ХВІЛІНАХ АД ТАГО, КАБ ПАЧАЦЬ РАБІЦЬ НЕПРЫСТОЙНЫЯ РЭЧЫ АДЗІН З АДНЫМ, ЦІ НЕ ЧАС МНЕ ПАЗНАЦЬ ТВАЁ ІМЯ?
КАНЕШНЕ. Я - КАЗАЧНЫ ПРЫНЦ.


ОЙ, ГЭТА ТАК СМЕШНА. ВЫ ТАКІ РАЗУМНЫ ЧАЛАВЕК. ПРАМА...
РАЗУМНЫ?
ЭМММ.. ТАК. ШТО-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ, СЭР?


БОЛЬШ НІЧОГА З ЕЖЫ ЦІ ПІТВА, МІС. АЛЕ МЫ ТАК ХВАЛЕБНА ФЛІРТАВАЛІ СЁННЯ, ШТО Я ВЫПРАБОЎВАЮ СПАКУС СПЫТАЦЬ ВАШ ТЭЛЕФОНЧЫК.


А Я СПАКУШАЮСЯ, КАБ ДАЦЬ ЯГО.
ДАРЭЧЫ, Я СКАНЧАЮ ЗМЕНУ І ПРАШУ ВАС ПРАВОДЗІЦЬ МЯНЕ.


НУ, ГЭТА САПРАЎДЫ.
АЛЕ, СУР'ЁЗНА, ХТО ТЫ ТАКІ?
Я ЗБЯНТЭЖАНЫ, АЛЕ ЗМУШАНЫ ПРЫЗНАЦЬ, ШТО МНЕ НЕАБХОДНА ДАСТАЦЬ МОЙ КАШАЛЁК, КАБ УСПОМНІЦЬ, ЯКОЕ ІМЯ Я ВЫКАРЫСТОЎВАЮ Ў ГЭТЫЯ ДНІ.


ГЭТА САПРАЎДЫ ГЭТАК ВАЖНА, ДАРАГАЯ?


ШТО ТАБЕ ТРЭБА, СПАДАР ВОЎК? Я ЗАНЯТА ЗАРАЗ.


ПАДРЫХТУЙСЯ ДА ДРЭННЫХ НАВІН, БЕЛАЯ.
НЯ БУДЗЬ ТАКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ. Я ЎЖО ВЕДАЮ. МОЙ БЫЛЫ ЗНОЎ У ГОРАДЗЕ.
МАБЫЦЬ, ЯМУ АТРЫМАЛАСЯ НАРЭШЦЕ ЗНЯСІЛІЦЬ ЗАПАС ГАСЦІННАСЦІ НАВАТУ САМЫХ ЗАМШЭЛЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЕЎРАПЕЙСКАЙ МАНАРХАВАЙ СЯМ'І.


Я НЕ ПРА ПРЫНЦА. ГЭТА ПРА ТВАЮ СЯСТРУ, РУЖАНЬКУ.
МОЖА ГЭТЫ ЦЯБЕ І ЗДЗІВІЦЬ, ВОЎК, АЛЕ Я НЕ ІДЫЁТКА. Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПАМЯТАЮ ІМЯ СЯСТРЫ.
ШТО ЯНА ВЫТВАРЫЛА Ў ГЭТЫ РАЗ?


Я АТРЫМАЎ ПАВЕДАМЛЕННЕ... ВЕДАЙ... ЯНА ЗНІКЛА. МАГЧЫМА ЯНА СТАЛА АХВЯРАЙ ГВАЛТУ.
ШТО?
ЯК?




ЯЕ ХЛОПЕЦ ПАВЕДАМІЎ, ШТО ЗНАЙШОЎ КВАТЭРУ РАЗГРОМЛЕНАЙ.
ОХ, І ГЭТА ЎСЁ?
У НАС НЕ ПАЛЯЦЬ.


«НА СЕКУНДУ ТЫ МЯНЕ НАПАЛОХАЎ, СПАДАР ВОЎК, АЛЕ МАЯ СЯСТРА АПОШНЯЯ З АДДАНЫХ ДЭМАНАЎ ТУСОВАК. ЯНА САПРАЎДНАЕ ДЗІЦЁ Д'ЯБЛА».
З ТАГО, ШТО Я ЧУЛА, ЯЕ КВАТЭРА БЫВАЕ РАЗГРОМЛЕНАЙ З ЖУДАСНАЙ РЭГУЛЯРНАСЦЮ.


БАЮСЯ, У ГЭТЫ РАЗ ПА-ІНШАМУ. ЯК Я ЗРАЗУМЕЎ, ТАМ КРОЎ, ШМАТ КРЫВІ.
Я ЗАРАЗ ЕДУ ТУДЫ ПАЗНАЦЬ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, АЛЕ Я ПАДУМАЎ ТЫ ЗАХОЧАШ ПАЗНАЦЬ ПЕРШАЙ.


ПА-ЧАРТОЎСКУ ДАКЛАДНА, Я ЖАДАЮ ВЕДАЦЬ. Я ЕДУ З ТАБОЙ.
НЕ ДУМАЮ, ШТО ГЭТА ДОБРАЯ ІДЭЯ. МОЖА БЫЦЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я АГЛЕДЖУ МЕСЦА.


МНЕ НЕ ЗАНАДТА ЦІКАВА, ШТО ТЫ ЛІЧЫШ ДОБРАЙ ІДЭЯЙ. ЯНА МАЯ СЯСТРА. І Я ТВОЙ НАЧАЛЬНІК.
Я ЕДУ З ТАБОЙ.


НАЧАЛЬНІК ЦІ НЕ, БЭЛА, Я НЕ ЗБІРАЮСЯ ДАЗВАЛЯЦЬ УМЕШВАЦЦА Ў МАЮ ПРАЦУ. Я РАСПАВЕЎ ТАБЕ ГЭТА Ў ЯКАСЦІ ВЕТЛАСЦІ, АЛЕ АМАТАР НЕ БУДЗЕ ТУПАЦЬ ПА МАГЧЫМЫМ МЕСЦЫ ЗЛАЧЫНСТВА, ЗНІШЧАЮЧЫ ДОКАЗЫ. ТОЛЬКІ НЕ Ў МЯНЕ.


ВІДАЦЬ, МЫ ЗАЙШЛІ Ў ТУПІК. ПРАПАНУЮ КАМПРАМІС: Я ЕДУ З ТАБОЙ. А КАЛІ ЦЯБЕ ШТОСЬЦІ НЕ ЎЛАДКОЎВАЕ – ЗАБІРАЙ РЭЧЫ І ВЫМЯТАЙСЯ АДСЮЛЬ.
ЯК ТАБЕ ТАКОЕ?


АХ!
О МОЙ!
ТАК! ВОСЬ ТАК!
НЕ СПЫНЯЙСЯ!


ТЫ ЎЗРУШАЮЧЫ.
Я ВЕДАЮ.


Я ЗАЎСЁДЫ ВЕРЫЎ, ШТО ПА-САПРАЎДНАМУ ВЫТАНЧАНЫ ДВАРАНІН ПАВІНЕН НАВОСТРЫВАЦЬ МАЙСТЭРСТВА ВАЛОДАННЯ ЧАЛЬЦОМ ТАКСАМА РУПЛІВА, ЯК І МЯЧОМ.


У КОЖНЫМ ВЫПАДКУ ТРЭБА ВЕДАЦЬ, КАЛІ ЛЕПШ КАЛОЦЬ, КАЛІ СЦЯЎШЫЦЦА, А КАЛІ ЗАВЯЗАЦЦА.
КАЛІ АДСТУПІЦЬ, А КАЛІ ПРАВЕСЦІ Ў АДКАЗ.
НЕ ВЕДАЮ, ШТО ЗНАЧЫЦЬ ПРАВЕСЦІ Ў АДКАЗ, АЛЕ НЕ СМЕЙ СПЫНЯЦЦА!


І, ВЯДОМА, КАЛІ ПРЫЙШОЎ ЧАС... ЗДЗЕЙСНІЦЬ КАНЧАТКОВЫ... ГЛЫБОКІ... ВЫБРЫК.
ААААХ!
МОЙ ГЕРОЙ.


ДЫК ЧАМУ ДЖЭК НЕ ЗАСТАЎСЯ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ПАВЕДАМІЎ ПРА ЗЛАЧЫНСТВА?
У ТАКСІ ЗАБАРОНЕНА ПАЛІЦЬ, СЭР.
СЭР?


Я АДПРАВІЎ ЯГО АХОЎВАЦЬ МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА. Я НЕ ЖАДАЮ, КАБ ХТО-НЕБУДЗЬ НАТАПТАЎ ТАМ, ДА ТАГО ЯК Я АГЛЕДЖУСЯ.
ТЫ ПАКІНУЎ ДЖЭКА АХОЎВАЦЬ МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА? ХІБА ГЭТА НЕ ЎСЁ АДНО, ШТО ПРАСІЦЬ ЛІСУ ВАРТАВАЦЬ КУРАТНІК?


ЁН АДЗІНЫ, ХТО ЗАХАВАЕ ЎСЁ НЕ КРАНУТЫМ. КАЛІ ДЖЭК ЖАДАЎ СХАВАЦЬ ДОКАЗЫ - ЁН ГЭТА ЗРАБІЎ ДА ТАГО, ЯК ПАВЕДАМІЎ ПРА ЗЛАЧЫНСТВА.
ЁН НЕ ДАПУСЦІЦЬ ЯШЧЭ БОЛЬШАЙ ПАДРОБКІ.


РЭШТЫ НЕ ТРЭБА.
ОХ, ВЫДАТНА, ЗАРАЗ МАЯ МАЦІ ЗМОЖА ЗРАБІЦЬ АПЕРАЦЫЮ НА НЫРЦЫ.
ТАКСІ


Я ЎСЁ АДНО НЕ ДАВЯРАЮ ЯМУ. ШТО РУЖАНЬКА ЗНАЙШЛА Ў ІМ?
МНЕ ЗАЎСЁДЫ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ТВАЁ АДКРЫТАЕ НЕЎХВАЛЕННЕ ДЖЭКА І БЫЛО ТЫМ, ШТО РУЖАНЬКА ЗНАХОДЗІЛА Ў ІМ САМЫМ ПРЫВАБНЫМ.
















О БОЖА! РУЖА!

БАЧЫЦЕ? ГЭТА ЖУДАСНА!

БОЛЬШ НІЯКАГА ДРУГА І ШЧАСЛІВА


ПАТРЫМАЙ. МНЕ ТРЭБА ЯСНА ЎСЁ АДЧУВАЦЬ.
ВЫ АБОДВА, ЗАСТАВАЙЦЕСЯ ТУТ.
НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ЗАХОДЗЬЦЕ.
КАЛІ ХТОСЬЦІ ПРЫЙДЗЕ, ЗАЧЫНІЦЕ ДЗВЕРЫ І ЗАСТАВАЙЦЕСЯ Ў КАЛІДОРЫ.








ГЭТА ЗАСТАНЕЦЦА СТРОГА Ў РАМКАХ КАЗАЧНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ. НІЯКАЙ "ЗВЫЧАЙНАЙ" ПАЛІЦЫІ Ў ГЭТАЙ СПРАВЕ.


БОЛЬШ НІЯКАГА ДОЎГА І ШЧАСЛІВА




ШТО ТЫ РОБІШ? ЧАМУ ТЫ АГЛЯДАЕШ ПАДЛОГУ? ТЫ ПАВІНЕН ШУКАЦЬ РУЖУ! ПАГЛЯДЗІ Ў СПАЛЬНІ, МОЖА ЯНА ТАМ!
Я ЎЖО ГЛЯДЗЕЎ. ЯЕ ТАМ НЯМА.


ЗАМОЎКНЕЦЕ АБОДВА І ДАЙЦЕ МНЕ ПРАЦАВАЦЬ.
ЯНА МАЯ СЯСТРА!


ДЖЭК, КАЛІ ЯНА ЗНОЎ АДКРЫЕ СВОЙ РОТ, БЯРЫ ЯЕ ПАД МЫШКУ І ВЫНОСЬ ДАХАТЫ. КАЛІ БУДЗЕ СУПРАЦІВІЦЦА, ДАЗВАЛЯЮ СТУКНУЦЬ ЯЕ.


ДОБРА. Я ЗРАЗУМЕЛА. Я БУДУ ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ЦІХА... ПАКУЛЬ.


ПАЛЬЦАМ МЯНЕ КРАНЕШ, СЯРУН, ПАШКАДУЕШ.




















VERTIGO

# FABLES™

ISSUE 2

BILL WILLINGHAM · LAN MEDINA · STEVE LEIALOHA

August 2002

2.50 CAN 4.25

SUGGESTED FOR MATURE READERS

BY COMICS

ПАДАННІ #2 (2002)
ПЕРАКЛАД: Т.Г.
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY

# Глава другая: (не) звычайны падазраваны

У якой наш бясстрашны дэтэктыў усё больш паглыбляецца ў загадку страчанага Падання, а прынц уз'ядноўваецца са сваім каханнем.

Сцэнар - Біл Уілінгхэм, малюнак - Лэн Медына, чарніла - Сців Лэйалоа, шрыфт - Тод Кляйн, колер - Шэрылін Ван Валкенберг, вокладка - Джэймс Джын і Алекс Малееў, ас.радактара - Марыя Хохнэр, радактар - Шэллі Бонд. Ідэя Паданняў - Біл Уілінгхэм.

На наступны дзень

Вудленд. Сакрэтная "мэрыя" падпольнай супольнасці, вядомая яго жыхарам як Фэйблтаўн.

♪ Жабяня збірацца падаглядаць... ♪

І ён адпраўляецца ў шлях*... ♪

Мм? Ох!

Добрая раніца, спадарыня Снежка.

Выдатны дзень, ці не праўда?

Выдатны.

*Словы са старадаўняй англельскай народнай песні "Frog Went"

FABLES 2. August, 2002. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to FABLES, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. Subscriptions to this title are offered only to readers who attest they are 18 years of age or older, or with written parental approval to readers under 18 years of age.

Printed in Canada.

DC Comics. A division of Warner Bros. – An AOL Time Warner Company

• JENETTE KAHN, President & Editor-in-Chief • PAUL LEVITZ, Executive Vice President & Publisher • KAREN BERGER, VP-Executive Editor •
• SHELLY BOND, Senior Editor • MARIAH HUEHNER, Assistant Editor • GEORG BREWER, VP-Design & Retail Product Development •
• RICHARD BRUNING, VP-Creative Director • PATRICK CALDON, Senior VP-Finance & Operations • TERRI CUNNINGHAM, VP-Managing Editor •
• DAN DIDIO, VP-Editorial • JOEL EHRLICH, Senior VP-Advertising & Promotions • ALISON GILL, VP-Manufacturing •
• LILLIAN LASERSON, VP & General Counsel • JIM LEE, Editorial Director-WildStorm • DAVID McKILLIPS, VP-Advertising •
• JOHN NEE, VP-Business Development • CHERYL RUBIN, VP-Licensing & Merchandising • BOB WAYNE, VP-Sales & Marketing •

У самай маленькай кватэры Вудленда...

Уставай! Ужо раніца. Мне трэба на працу, а табе – вымятацца.

Пакінь мяне ў супакоі, Бозл! Я яшчэ сплю! Я ўчора позна лёг!

Праз гадзіну рэйс на ферму. Ты адправішся на гэтым грузавіку.

Ты не можаш больш хавацца ў горадзе і ламаць маю канапу.

Чаму не? Ты ўсё яшчэ ў вялікім абавязку перад мной – ты разбурыў маю хату!

Справа даўняя.

Падумаеш, садзьмуў пару травінак.

Пасля чаго, ты паспрабаваў зрабіць з мяне вячэру! Не выпускай гэту малюсенькую дэталь.

І?

Якім чынам гэта ператвараецца ў: "Я дазваляю заваліцца да мяне кожны раз, як ты валіш з фермы?"

Я жывы знак твайго раскаяння. Хто будзе сумнявацца ў тым, што ты выправіўся, калі адзін з тваіх ворагаў, сакавітае парася, спіць у тваёй хаце?

Я ненавіджу гэту ферму, Бозл. Я вытанчаная свіння. Я прыналежу гэтаму гораду!

Аднак, калі ты зноў уцячэш з фермы, я цябе здам. Афіцыйна.

Не жадаеш паснедаць, перш чым я выкіну цябе адсюль?

Што там у цябе?

Яечня з беконам.

Бяру свае словы назад. Ты ўсё яшчэ монстар.

RY Comics

## ПАДАННІ #2

Пераклад Т.Г.













Мілая Молли, пакуль ты спіш, я выскачу
забраць багаж з порта. Я пакінуў пару гарнітураў
для чысткі, будзь ласкава – захапі іх перад працай.
Калі будзе магчымасць, ці не закінеш іх у пральню?
У мяне іх ня шмат. Старанна вынікай інструкцыі
па чыстцы. Я ледзь дапамог сабе, запазычыўшы
твой запасны ключ ад кватэры і трохі грошай. Я не стаў
будзіць цябе і пытаць, я ведаю – ты не будзеш
пярэчыць. Я спынюся ў цябе на пару дзён,
калі ты не супраць. Убачымся ўвечар!

Твой Выдатны Прынц

*МОЛЛІ МАЛОЎН – ПАПУЛЯРНАЯ ІРЛАНДСКАЯ ПЕСНЯ. Ў ЁЙ СПЯВАЕЦЦА ПРА ПРЫГОЖУЮ МАЛАДУЮ ДЗЯЎЧЫНУ, ЯКАЯ ГАНДЛЯВАЛА НА ВУЛІЦАХ. ДУБЛІНА, І ПАМЕРЛА МАЛАДОЙ У ЛІХАМАНЦЫ.













ЗНАЧЫЦЬ ЯНА САПРАЎДЫ АХВЯРА?
ПАДОБНА НА ТОЕ.
КАЛІ ГЭТА НЕ ДЖЭК, ЯКІЯ ЯШЧЭ ЁСЦЬ ПАДАЗРАВАНЫЯ? ЯНА ТУСАВАЛАСЯ СА ЗВЫЧАЙНЫМІ. ВЫ ЛІЧЫЦЕ, АДЗІН З ІХ МОГ..?


«ГЭТЫЯ ЗВЫЧАЙНЫЯ НЕ МАГЛІ ПАКІНУЦЬ НАСТОЛЬКІ СПЕЦЫФІЧНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ НА ЯЕ СЦЯНЕ, КАЛІ, ВЯДОМА, РУЖА НЕ РАСЧЫНІЛА СЯБЕ».
БОЛЬШ НІЯКАГА ДОЎГА І ШЧАСЛІВА
АЛЕ НАВАТ ТАКІ ДЫСІДЭНТ ЯК ЯНА, НЕ ПАВІННА БЫЛА ПАРУШЫЦЬ ГЭТАГА ПРАВІЛА.


УСЁ РОЎНА. ГЭТА АДЗІН З НАС. З КАЗАК.


ТАДЫ МАЕ ГРОШЫ КАЖУЦЬ, ШТО ГЭТА ЗРАБІЎ ДЖЭК.
ЗАЎСЁДЫ ПАДАБАЛАСЯ ПАДАЗРАВАЦЬ ДЖЭКА. ЁН БЫЎ СТРЭМКАЙ У АЗАДКУ З ПЕРШАГА ДНЯ ЯГО ІСНАВАННЯ. У МЯНЕ НЯМА ВЫБАРУ. Я ПАЧЫНАЮ ШУКАЦЬ ЗЛЫДНЯ.
І, ВЯДОМА, Я ДАПЫТАЮ ДЖЭКА СЁННЯ.


Я ЖАДАЮ ПРЫСУТНІЧАЦЬ НА ДОПЫЦЕ.
Я ТАК І ДУМАЎ. ТЫ БУДЗЕШ УСЮДЫ САВАЦЬ СВОЙ НОС? ХІБА Ў ЦЯБЕ НЯМА ІНШЫХ СПРАЎ?


РУЖА - МАЯ СЯСТРА.
ВЫ НЕ БАЧЫЛІСЯ ГАДАМІ. ПАМІЖ ВАМІ НЕ БЫЛО ВЯЛІКАГА КАХАННЯ.


КАЛІ ТЫ ТАК ЛІЧЫШ, МОЖА ДАДАСІ МЯНЕ Ў СПІС ПАДАЗРАВАНЫХ?
УЖО.
ЖАРТУЕШ?


НЕ, МЭМ. Я НІКОЛІ НЕ АДРОЗНІВАЎСЯ ПАЧУЦЦЁМ ГУМАРУ. Я МАГУ ДАПЫТАЦЬ ВАС ПРАМА ЗАРАЗ.
Я НЕ МАГУ ПРАМА ЗАРАЗ.
МОЙ БЫЛЫ НАСТАЯЎ НА СУСТРЭЧЫ Ў "ЯЙКАМЭНЕ". Я НАКІРОЎВАЮСЯ ТУДЫ.


ДЛЯ ПАЧАТКУ СХАВАЙЦЕ КАШАЛЁК.

ДЗЕСЬЦІ ЯШЧЭ...
КАЛІ ЖАДАЕШ НАПАДАЦЬ – НАПАДАЙ СУР'ЕЗНА.
ТЫ НЕ НА БАЛІ ВАЛЬСУЕШ У КРЫШТАЛЬНЫХ ЧАРАВІЧКАХ. ТРОХІ ВЫТАНЧАНАСЦІ НЕ ПЕРАШКОДЗІЦЬ. ТУТ НЯМА МЕСЦА ПЕДАНТЫЧНАСЦІ, ПРЫНЦЭСА.
МІСТАР СІНЯЯ БАРАДА, КАЛІ ВЫ НАСТОЙВАЕЦЕ, ЗАВІЦЕ МЯНЕ ПРЫНЦЭСАЙ, АЛЕ НЕ ТАКІМ ТОНАМ.
ВЫ КАЖАЦЕ ТАК, ЯК БЫЦЦАМ ГЭТА СІНОНІМ... Я НЕ ВЕДАЮ...
...ЛАЙНО НА ПАЛАЧЦЫ.
ДЗЕ ТЫ ГЭТАГА НАХАПАЛАСЯ, ПАШЛЯЧКА? НЯЎЖО ТЫ ТАК ВЫКАЗВАЛАСЯ НА РАДЗІМЕ?
ТАМУ ТВОЙ ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ КІНУЎ ЦЯБЕ?
МАГЧЫМА.
ДОБРЫ ВЫБРЫК, АЛЕ ТЫ ДАЗВОЛІЛА ЎКОЛУ МІНУЦЬ.
Я НЕ ЖАДАЛА Б ПРАТЫКНУЦЬ ЦЯБЕ.
ТАДЫ МЫ СТРАЧВАЕМ ЧАС. У ФЭЙБЛТАЎНЕ МЫ ТРЭНІРУЕМСЯ З САПРАЎДНАЙ ЗБРОЯЙ, ТАМУ ШТО РЫХТУЕМСЯ ДА САПРАЎДНЫХ БІТВАЎ.
ТВОЙ МУЖ ВЕЛЬМІ СПРЫТНЫ Ў ЗВАРОЦЕ СА ЗБРОЯЙ. ДЗІЎНА, ШТО ЁН НЕ НАВУЧЫЎ ЦЯБЕ НІЧАМУ КАРЫСНАМУ. АБАРАНЯЙЦЕСЯ, ПРЫНЦЭСА. МАЯ ЧАРГА АТАКАВАЦЬ.
ВЫ СПЕЦЫЯЛЬНА СПРАБУЕЦЕ БЫЦЬ ТАКІМ ГРУБІЯНСКІМ? ГЭТА НЕЙКІ ТАЕМНЫ АСПЕКТ ВАШАГА СТЫЛЮ НАВУЧАННЯ?
МАГЧЫМА. ТЫ Ў КУРСЕ, ШТО ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ ВЯРНУЎСЯ Ў ГОРАД?
СТАРЫЗНА. ПРА ГЭТА ВЕДАЮЦЬ УСЁ. ПРАМА ЗАРАЗ, ПАКУЛЬ МЫ РАЗМАЎЛЯЕМ, ЁН ЕСЦЬ БЯСПЛАТНУЮ ЯЕЧНЮ НА СУСТРЭЧЫ СА СВАЁЙ ЖОНКАЙ НУМАР АДЗІН.
САПРАЎДНЫЯ НАВІНЫ – ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З РУЖАНЬКАЙ? ТЫ ЧУЎ ПРА ЯЕ?
НЕ. ШТО?
ЯНА МЁРТВАЯ. РАЗАБРАНА ЯК КАЛЯДНАЯ ІНДЫЧКА. ПА ЧУТКАХ ГЭТА ЗРАБІЎ ЯЕ ЖУДАСНЫ СЯБРУК.
ДЖЭК?
АГА. Я ДУМАЮ, ГЭТА ЁН. Я ЧУЛА, ЁН ТАНЧЫЎ НА ЖМУТКАХ ЯЕ СКУРЫ, КАЛІ ЯГО ЗЛАВІЛІ...
АЙ! ЯКОГА ЛЯСУНА?!
ГЭЙ, ГАЎНЮК, Я МІНАЮ КРЫВЁЙ! НАВОШТА ТЫ ГЭТА ЗРАБІЎ?
ТАМУ ШТО ЎСЁ СУР'ЁЗНА. ТЫ НЕ ЎВАЖЛІВАЯ. ПАДУМАЙ ПРА ГЭТА ПЕРАД НАСТУПНЫМ УРОКАМ.




ДЗЯКУЙ, ШТО АДГУКНУЛАСЯ НА ГЭТАК КАРОТКАЕ ЗАПРАШЭННЕ.




ЯК ПРЫЕМНА ПАЗНАЦЬ, ШТО ТВОЙ ГОЛАС ЗА МІНУЛЫЯ ГАДЫ НЕ СТРАЦІЎ І КРОПЛІ СВАЙГО ЯДУ, ДАРАГАЯ.

ЧАМУ Б ТАБЕ НЕ СКАЗАЦЬ, ШТО МЕНАВІТА ТАБЕ ТРЭБА, І Я ВЯРНУСЯ ДА ПРАЦЫ.




ТАК, Я ЧУЎ. ТЫ ЗАРАЗ ВЯЛІКІ ГУЗ. МЕНАВІТА ПРА ГЭТА Я І ЖАДАЎ ПАГАВАРЫЦЬ.




МНЕ НЕ ГЭТА ТРЭБА. Я ПАДУМВАЮ СУМЛЕННА ПАПОЎНІЦЬ ЗГУБЛЕНЫ СТАН.

ТАДЫ КАЖЫ.




УСЁ ШТО АД ЦЯБЕ ПАТРАБУЕЦЦА – ПЕРАДАЦЬ МАЕ СЛОВЫ СУПОЛЬНАСЦІ КАЗАК. СЯРОД БАГАТЫРОЎ, ВЯДОМА.




ЧАМУ ХТОСЬЦІ ПАВІНЕН ЗАПЛАЦІЦЬ ДОБРЫЯ ГРОШЫ ЗА ЗЕМЛІ, ЯКІЯ СХІЛІЛІСЯ ПЕРАД ЗАХОПНІКАМ ДАМІНЁНА ЦІ ЗА ТЫТУЛ, ЯКІ НЕ МАЕ НІЯКАЙ ВАГІ Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ?




ГЭТА АДЗІНЫ Ў ГОДЗЕ ЧАС, КАЛІ ЎСЕ ВЫПРАБОЎВАЮЦЬ НАСТАЛЬГІЮ ПА ХАЦЕ І ПАЧЫНАЮЦЬ ВЕРЫЦЬ, ШТО ЁСЦЬ ШАНЕЦ УСЁ ВЯРНУЦЬ.




МАГЧЫМА, АЛЕ ШТО ПРЫМУШАЕ ЦЯБЕ ДУМАЦЬ, ШТО Я ДАПАМАГУ ТАБЕ? ЗАБЫЎСЯ ЧЫННІК РАЗВОДУ? ТЫ СПАЎ З МАЁЙ СЯСТРОЙ.







ДАРЭЧЫ. "РАСПУСНІЦА" ТОЛЬКІ ШТО ЗНІКЛА ПРЫ ПУЖАЛЫХ АКАЛІЧНАСЦЯХ.

ГЭТА АДБЫЛОСЯ ТОЛЬКІ ШТО. ТЫ Ў СПІСЕ ПАДАЗРАВАНЫХ...


«...І БОЗЛІ ЗАХОЧА ЗАДАЦЬ ТАБЕ ПАРУ ПЫТАННЯЎ ПАЗНЕЙ».


ГЭТА НЕНАДОЎГА, ДЖЭК.
У ТВАІМ РАСПАРАДЖЭННІ ЎВЕСЬ МОЙ ЧАС. Я ЖАДАЮ ЗРАБІЦЬ УСЁ, КАБ ВЫСВЯТЛІЦЬ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З РУЖАНЬКАЙ, І ДАКАЗАЦЬ, ШТО Я НЕ ПРЫЧЫНІЎ ЁЙ ЗЛА.


Я ТАК ХВАЛЮЮСЯ... БОГ МОЙ, ТАМ ТАК ШМАТ КРЫВІ. ЗАНАДТА ШМАТ. Я БАЮСЯ, ЯНА МОЖА...
НЯМА СЭНСУ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА. АДНОСНА НЕВЯЛІКАЯ ПОРЦЫЯ КРЫВІ ПАРАСПЫРСКВАНАЯ ВАКОЛ...
... МОЖА ДАЛЁКА ЗАВЕСЦІ.
БЕЗ СУДМЕДЭКСПЕРТЫЗЫ, МЫ НЕ МОЖАМ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ, ЯК ШМАТ КРЫВІ БЫЛО РАЗЛІТА.


Я ЎЖО ДАМОВІЎСЯ ПРА ПРАВЯДЗЕННЕ ТЭСТАЎ, А ПАКУЛЬ МЫ ПАВІННЫ ЎРАЗУМЕЦЬ. МЫ ШУКАЕМ ЖЫВУЮ ЖАНЧЫНУ.
ДОБРА. ЯК СКАЖАШ. ТЫ ШЭРЫФ.


ТЫ БЫЎ ЗАЎВАЖАНЫ Ў РАМАНТЫЧНЫХ АДНОСІНАХ З РУЖАЙ, ЯК ДОЎГА?
АМАЛЬ ЧАТЫРЫ ГАДЫ.
АЛЕ НЕ ЧАТЫРЫ ГАДЫ. РОЎНА.
ПРАБАЧЫЦЕ?


«ЯК РАЗ КАЛЯ ГОДА НАЗАД ВЫ З РУЖАНЬКАЙ ВЕЛЬМІ ШУМНА РАСТАЛІСЯ. З БОЙКАЙ І КРЫКАМІ».
«ГЭТА АМАЛЬ ПАДЫШЛО ДА ТОЙ ГРАНІ, ДЗЕ МНЕ ВЫНІКАЛА ЎМЯШАЦЦА».


«У ВЫНІКУ, КАЛІ Я ПРАВІЛЬНА ПАМЯТАЮ, АПОШНІ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ЯНА ПРАВОДЗІЛА З КІМСЬЦІ ІНШЫМ. ХТО ГЭТА БЫЎ?»


«СІНЯЯ БАРАДА. АЛЕ ЯНА СУСТРАКАЛАСЯ З ІМ, ТОЛЬКІ КАБ ПРЫМУСІЦЬ МЯНЕ РАЎНАВАЦЬ».
ЁН, ВОСЬ КАГО ВАМ ВАРТА ДАПЫТАЦЬ. ВЫ ВЕДАЕЦЕ ЯГО РЭПУТАЦЫЮ. МАГЧЫМА ЁН АШАЛЕЎ, КАЛІ ЯНА ЯГО КІНУЛА.
МЫ НАВЕДАЕМСЯ ДА ЯГО. АЛЕ ДАВАЙ СКОНЧЫМ З ТАБОЙ.
У ЦЯБЕ КВАТЭРА ТУТ? У БУДЫНКУ?


ДАКЛАДНА.
АЛЕ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ УЛАСНЫ КЛЮЧ ДА КВАТЭРЫ РУЖЫ, І ВЫ НАЧАВАЛІ РАЗАМ?
АГА. ЧАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ.
ЧАМУ НЕ Ў ГЭТЫ РАЗ?


Я НЕ ЎПЭЎНЕНЫ. Я АДРЫВАЎСЯ З СЯБРАМІ ДАПАЗНА. НЕ ЗАХАЦЕЎ БУДЗІЦЬ ЯЕ.
ПАЦЕШНА, АЛЕ ГРЫМБЛ НЕ ПАМЯТАЕ, КАБ ТЫ ПРЫХОДЗІЎ.


ГРЫМБЛ СПАЎ ЗА СТОЙКАЙ, ЯК ЗАЎСЁДЫ.
ТЫ Б ЗДЗІВІЎСЯ, КАЛІ Б УБАЧЫЎ ЯГО ЗАПІСЫ.


ТЫ ЗАЎСЁДЫ ІДЗЕШ СУПРАЦЬ СІСТЭМЫ, ДЖЭК. ТЫ СПРАБАВАЎ ВЫКРАСЦІ БОТЫ-БЕГУНЫ, КАБ ВЫЙГРАЦЬ НЬЮ-ЁРКСКІ МАРАФОН.
БОСТАНСКІ МАРАФОН. Я РАБІЎ ГЭТА ЗА МЕЖАМІ ШТАТА, КАБ НЕ ПРЫЦЯГВАЦЬ УВАГУ ДА ФЭЙБЛТАЎНУ.


Я ЎМЕЮ ЗАХОЎВАЦЬ САКРЭТЫ. Я НЕ З ТЫХ ФАНАТЫКАЎ, ЯКІЯ ЛІЧАЦЬ, ШТО ВАРТА АДКРЫЦЦА І ВЫЙСЦІ З ПУСТЭЛЬНІЦТВА.
А ШТО НАКОНТ ТАГО РАЗУ, КАЛІ ТЫ СПРАБАВАЎ РАЗГУЛЯЦЬ У ЛАТАРЭЮ МАПУ ДЛЯ ЗНАХОДЖАННЯ ТВАІХ ЧАРОЎНЫХ БАБОЎ?


ЯКІ ЗАКОН Я ГЭТЫМ ПАРУШЫЎ? У МЯНЕ ЁСЦЬ ПРАВА ЗАРАБЛЯЦЬ НА ЎЛАСНАСЦІ.
ПРАВА ЁСЦЬ, АЛЕ МАПА БЫЛА ПАДРОБЛЕНАЙ, А БАБЫ, КАЛІ ЯНЫ І ІСНАВАЛІ, ТЫ СТРАЦІЎ СТО ГАДОЎ НАЗАД.


ВЯЛІКАЯ СПРАВА. ЖАДАЎ ЗГУЛЯЦЬ ВЯСЁЛЫ ЖАРТ. І ШТО? Я ЖАРТАЎНІК, А НЕ ЗАБОЙЦА!
ГЭТА БЫЛО РАНЕЙ. НЯДАЎНА ТЫ ЗДЗЕЙСНІЎ ВЕЛЬМІ ХАРАКТЭРНАЕ «СУПЕР-ЗАБОЙСТВА».


ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ ДА ГЕНЕРАЛЬНАЙ АМНІСТЫІ, І НЕ МОЖА БЫЦЬ АРГУМЕНТАМ.
ЁН МАЕ РАЦЫЮ, БОЗЛІ.


АМНІСТЫЯ АБАРАНЯЕ ТОЛЬКІ ВАЎКОЎ, ПАЖЫРАЛЫХ БАБУЛЬ, ЯКІЯ ПЕРАТВАРЫЛІСЯ ПАДЧАС ВЫГНАННЯ Ў ТАННЫХ КОПАЎ?
САЧЫ ЗА СВАІМ РОТАМ, СЫНОК.


СПЫНІЦЕ! АБОДВА! ВЫ ЎЛАДКАВАЛІ ІНТЫМНЫЯ РОЛЕВЫЯ ГУЛЬНІ. ВЫ ПАЗБЯГАЕЦЕ ПЫТАННЕ, АДКАЗ НА ЯКІ Я ЧАКАЮ.
ДЖЭК, МАЯ СЯСТРА МЁРТВАЯ? ТЫ ЗАБІЎ ЯЕ?


ТЫ ДЗЕСЬЦІ СХАВАЎ ЯЕ ЦЕЛА?
НЕ! ВЯДОМА НЕ! Я КЛЯНУСЯ!
ЗНАЧЫЦЬ, ТЫ НЕ БУДЗЕШ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я ЗАЗІРНУ ДА ЦЯБЕ Ў КВАТЭРУ? ОХ, СЕКУНДУ, ТЫ ЖЫВЕШ У ГЭТЫМ БУДЫНКУ, ТАК ШТО ТВОЙ ДАЗВОЛ МНЕ НЕ ПАТРЭБНЫ.


ТЫ ЗАСТАНЕШСЯ ТУТ ПАКУЛЬ Я ПРАВЕРУ КВАТЭРУ.
ВЯДОМА. МНЕ НЯМА ЧАГО ХАВАЦЬ.


ТЫ МОЖАШ ВЫКАЗАЦЬ ЗДАГАДКУ, ХТО ЖАДАЎ ПРЫЧЫНІЦЬ БОЛЬ РУЖЫ?
СІНЯЯ БАРАДА АДЗІНЫ, ХТО ПРЫХОДЗІЦЬ НА РОЗУМ. МОЖА ЁН ПРЫНЯЎСЯ ЗА СТАРОЕ? ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ШТО ЁН СА СВАІМІ ЖОНКАМІ РАБІЎ?
ГЭТА БЫЛО ДА АМНІСТЫІ, ДЖЭК, ПАМЯТАЕШ?
ТЫ НЕ МОЖАШ ГЭТАГА АБМЯРКОЎВАЦЬ.


CLIC
ПРАБАЧ ЗА ГАДОЎЛЮ МАКРОЦЦЯ. НЕ ПРАФЕСІЙНА З МАЙГО БОКУ?
НЕ ПРАСІ ПРАБАЧЭННЯ. Я МЕРКАВАЎ, ШТО ГЭТА ЗДАРЫЦЦА.


Я БЫЛА Ў ЗДРАНЦВЕННІ. ЯК БЫЦЦАМ УСЁ ГЭТА НЕРЭАЛЬНА.


Я НЕ ДАЛІКАТНАЯ КВЕТКА, МІСТАР ВОЎК. Я МАГУ ЎСТОЙЛІВА ПРЫМАЦЬ ДРЭННЫЯ ВЕСТКІ. Я Б ЖАДАЛА ПАЗНАЦЬ ПРА СМЕРЦЬ СЯСТРЫ ПЕРШАЙ.
Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, ШТО КАЛІ ГЭТА АДБУДЗЕЦЦА...


БУЙНАЯ ЗЯЛЁНАЯ КРАМА КВЕТАК
ЦЯПЕР ЛЕПШ СЯБЕ АДЧУВАЕШ?
МЯДЗВЕДЗЯНЯ ЭДВАРД ЦУКЕРКІ


ШЭСЦЬ СОРАК ПЯЦЬ, МІС БЕЛАЯ.
НЕ ЛЕПШ, АЛЕ ЎЖО КАНТРАЛЮЮ СЯБЕ. АДНА МАЯ ЗАГАНА МНЕ Ў ГЭТЫМ ДАПАМОЖА.
ШАКАЛАД ЛЕЧЫЦЬ УСЕ БЕДЫ.
ЧАМУ ТЫ НЕ ПАКІНЕШ ГЭТУ СПРАВУ МНЕ?


НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ. БОЛЬШ Я НЕ СТРАЧУ САМАВАЛОДАННЯ. САЧЫ ЗА СВАІМІ ВЫБЛІСКАМІ ЛЮТАСЦІ.
НЕ ДАКАРАЙ СЯБЕ ЗАНАДТА СТРОГА, СНЕЖКА. ЧАСАМІ ТАКІЯ ВЫБЛІСКІ ДАПАМАГАЮЦЬ ПЕРАКАНАЦЬ ПАДАЗРАВАНАГА.


КАГО МЫ НАВЕДАЕМ НАСТУПНАГА?
Я ДУМАЮ РУШЫЦЬ УСЛЕД РАДЗЕ ДЖЭКА І НАВЕДАЦЬ ПУСТЭЛЬНІКА-СІНЮЮ БАРАДУ. ЁН ЖА ЎСЁ ЯШЧЭ ЖЫВЕ Ў БУДЫНКУ?


З МОМАНТУ ПАБУДОВЫ. ЖАДАЕШ АДНУ?
Я НЕ ЕМ, МІЛАЧКА.


Я ЧУЎ, СІНЯЯ БАРАДА БАГАТЫ, ЧАМУ ЁН АБГРУНТАВАЎСЯ НА ЧАЦВЁРТЫМ ПАВЕРСЕ? ЧАМУ НЕ АБРАЎ АПАРТАМЕНТЫ БОЛЬШ І ВЫШЭЙ.
ТУК ТУК
УБАЧЫШ.


ТАК?
МЫ ТЭЛЕФАНАВАЛІ. ТВОЙ БОС НАС ЧАКАЕ.
ВЕЛЬМІ ДОБРА, УВАХО-ДЗЬДЗІЦЕ.


КАЛІ ЛАСКА, ІДЗІЦЕ ЗА МНОЙ.
ОЎ, ЗАРАЗ Я РАЗУМЕЮ. ЁН ЗАЙМЕЎ САБЕ АДНО З ГЭТЫХ ЧАРОЎНЫХ ШМАТ-Ў-МАЛЕНЬКІМ АБ'ЁМЕ ПРАСТОРАЎ. ЯК ТВОЙ ОФІС. ЯК ЖА ЁН ПРАКРУЦІЎ ГЭТА.
ЁН АДЗІН З НЕКАЛЬКІХ ШЧАСЛІЎЦАЎ, ХТО ЗДОЛЕЎ ЗБЕГЧЫ З РАДЗІМЫ ПРЫХАПІЎШЫ СВАЁ БАГАЦЦЕ.
І ЎВЕСЬ ДУРНЫ ЗАМАК У ДАДАТАК.


ПА ЧУТКАХ, У ЯГО ЎЛАСНАЯ ПАДЗЕМНАЯ ЧЫГУНКА, І ЁН ЗАЙМАЕЦЦА КАНТРАБАНДНЫМ ВЫВАЗАМ АСТАТНІХ КАЗАК З РАДЗІМЫ, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВОРАГІ ПРЫЙШЛІ ТУДЫ.
АЛЕ ЁН УЗНЯЎ КОШТЫ ЗА СВАЕ ПАСЛУГІ.


ЯК ШМАТ НАШЫХ УЦЕКАЧОЎ АДДАЛІ СВАЕ СКАРБЫ Ў ЯГО РУКІ?
ПРА ГЭТА Я І КАЖУ. АЛЕ МЫ НІКОЛІ САПРАЎДЫ НЕ ДАЗНАЕМСЯ, ГЭТА БЫЛО ДА АМНІСТЫІ.


ЁН ШМАТ ЗАПЛАЦІЎ ЧАРАЎНІКАМ, КАБ ЗМЯСЦІЦЬ ЦЭЛЫ ЗАМАК У МАЛЕНЬКУЮ КВАТЭРУ. ЯНЫ НЕ ПРАЦУЮЦЬ ТАННА.
ВАШЫ ГОСЦІ, СЭР.


ДЗЯКУЮ ЗА ЗГОДУ СУСТРЭЦЦА З НАМІ, МІСТАР СІНЯЯ БАРАДА. МЫ... МЫ... НЕ АДНІМЕМ ШМАТ ВАШАГА ЧАСУ.
НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ. САДЗІЦЕСЯ. ПАЧУВАЙЦЕСЯ ЯК У СЯБЯ ДОМА.
Я РАЗУМЕЮ, ВЫ ТУТ ДЛЯ ТАГО, КАБ САБРАЦЬ МОЙ ШТОГАДОВЫ ЎНЁСАК У ПАДТРЫМКУ НАШАГА ЎРАДА.


ЗВЫЧАЙНА Я АДДАЮ ЯГО ПРАМА НА ПРЫЁМЕ Ў САДЗЕ, У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ. АЛЕ КАЛІ ВАМ НЕАБХОДНА РАНЕЙ СЁЛЕТА...


МЫ ТУТ НЕ З ТОЙ НАГОДЫ.
ЗІРНІЦЕ НА ГЭТЫЯ ФАТАЗДЫМКІ. ЯНЫ ЗРОБЛЕНЫ Ў КВАТЭРЫ РУЖЫ МІНУЛАЙ НОЧЧУ, І ТУТ УСЯ ЯЕ КРОЎ.
БОЖА.


УСЕ МЫ ЖАДАЕМ ПАЗНАЦЬ - ЧАМУ ТЫ ЗАБІЎ ЯЕ?
ШТО? ДЫ ЯК ТЫ АСМЕЛІЎСЯ!
ВОЎК!


ЯК Я АСМЕЛІЎСЯ, ШТО? КАЗАЦЬ ГРУБІЯНСКА ПРА СЕРЫЙНАГА ЗАБОЙЦУ?
ГЭТЫМ ТЫ ЗАЙМАЎСЯ? ЖАНІЎСЯ НА ІХ, А ПОТЫМ ВЫПУСКАЎ КІШКІ?


МІСТАР ВОЎК, ДОСЫЦЬ!
ТЫ ДЗЁРЗКІ ЧАЛАВЕК, Я ПАТРАБУЮ САТЫСФАКЦЫІ!


ДА ГАЮ ВАШУ САТЫСФАКЦЫЮ. Я ДУМАЮ ГЭТА ВЫ ЗАБІЛІ ЯЕ, І Я ГАТОВЫ АРЫШТАВАЦЬ ВАС ПРАМА ЗАРАЗ.


ЗБІРАЙ СВОЙ СУД, БЕЛАЯ. Я ВІНАВАЧУ ГЭТУ ПАМПЕЗНУЮ ПОПУ Ў ЗАБОЙСТВЕ РУЖАНЬКІ. ЁН НЕ СУПРАЦОЎНІЧАЕ. ЁН АДМАЎЛЯЕЦЦА АДКАЗВАЦЬ НА ЛЮБЫЯ ПЫТАННІ.
ДЫ ВЫ НІВОДНЫ НЕ ЗАДАВАЛІ! Я ЖАДАЮ СУПРАЦОЎ-НІЧАЦЬ.


СКАНЧАЙ СВАЕ ДУРНЫЯ АДГАВОРКІ І АДКАЗВАЙ! ТЫ ЗАБІЎ ЯЕ?
НЕ!


ТЫ ПРЫЧЫНЯЎ ЁЙ ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ ШКОДУ?
НЕ. НІКОЛІ.


ДЗЕ ТЫ БЫЎ ПАЗАМІНУЛАЙ НОЧЧУ?
ТУТ. УВЕСЬ ДЗЕНЬ І НОЧ. Я РЭДКА ВЫХОДЖУ.


ГОД НАЗАД ВЫ З РУЖАЙ З'ЯВІЛІСЯ НА ПУБЛІЦЫ РАЗАМ. У ВАС БЫЛІ ПАЧУЦЦІ ЦІ СТАЎЛЕННЕ НА АДЗІН РАЗ?
ПАЧУЦЦІ БЫЛІ.


І ТЫ РАЗЗЛАВАЎСЯ НА ЯЕ, КАЛІ ЯНА КІНУЛА ЦЯБЕ?
НЕ, ТАМУ ШТО ЯНА НІКОЛІ НЕ "КІДАЛА" МЯНЕ, КАЖУЧЫ ТВАЁЙ МОВАЙ МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ РАЗАМ. ХОЦЬ НЕ РАСПАЎСЮДЖВАЛІСЯ ПРА ГЭТА.


«ГОД НАЗАД НА БАЛІ Ў ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ РУЖАНЬКА І Я ЗАРУЧЫЛІСЯ».
«ПА НЕЙКІХ ЧЫННІКАХ ЯНА НАСТАЯЛА, КАБ ЗАРУЧЫНЫ ТРЫМАЛІСЯ Ў ТАЯМНІЦЫ РОЎНА ГОД».


ШТО Ж, ХІБА ГЭТА НЕ ЎДАР ПА ЯЙКАХ?
ЁН КАЖА ПРАЎДУ?
Я НЯ ВЕДАЮ.


ВЯДОМА, Я КАЖУ ПРАЎДУ. Я НЕ ЛГУН, У МЯНЕ ЁСЦЬ ДОКАЗЫ.
ЯК?
МЫ АФОРМІЛІ НАШЫ ЗАРУЧЫНЫ Ў ПІСЬМОВАЙ ФОРМЕ. ВЫ МОЖАЦЕ ПЕРАКАНАЦЦА - ГЭТА ЯЕ ПОЧАРК.


ТЫ ПРЫМУСІЎ МАЮ СЯСТРУ ПАДПІСАЦЬ ДАМОВУ З АБЯЦАННЕМ ВЫЙСЦІ ЗА ЦЯБЕ ЗАМУЖ.
ТОЛЬКІ З-ЗА ГРОШАЙ. ГОД НАЗАД Я ВЫПЛАЦІЎ ЁЙ ЗНАЧНЫ ПАСАГ. КАЛІ, ВЯДОМА, МОЖНА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ГЭТЫ ТЭРМІН ДА ГРОШАЎ, ВЫПЛАЧАНЫМ ПЕРСПЕКТЫЎНЫМ ЖАНІХОМ ПЕРСПЕКТЫЎНАЙ НЯВЕСЦЕ.


«РУЖАНЬКА БЫЛА І ЗАСТАНЕЦЦА МАЁЙ НЯВЕСТАЙ».
«КАЛІ ЯНА І ПРАЎДА СТАЛА АХВЯРАЙ ГВАЛТУ, ТО, КЛЯНУСЯ, Я АДПОМШЧУ».


АЛЕ ЦЯПЕР Я ПРЫЗНАЧАЮ ЎЗНАГАРОДУ Ў МІЛЬЁН ДАЛЯРАЎ ЗА ЗЛОЎ ТАГО, ХТО ЗДЗЕЙСНІЎ ПОДЛАЕ ЗЛАЧЫНСТВА.
ДАЛЕЙ: КРЫВАВЫЯ РАЗЛІКІ.

# Глава трэццяя
## кроў расказжа

У якой рабяты ўладкоўваюць вялікую бязладзіцу, праліваецца больш крыві, і вызначаецца лёс зніклай казачнай істоты.


Біл Уілінгхэм Лэн Медзіна Сців Лэйалоа
Джэймс Джын Марыя Хохнэр Шэллі Бонд
Тод Кляйн Шэрэлін Ван Валкенберг Зайланол


МЫ ЎЖО ЎСЁ ВЫГРУЗІЛІ, БОЗЛІ. МЫ МОЖАМ ПАЙСЦІ?

АПАРТАМЭНТЫ ГРЫНВІЧ БУДЫНАК, ДЗЕ ЖЫЛА ЗАГІНУЛАЯ (МАЖЛІВА) РУЖАНЬКА.

БЕЗ ВАРЫЯНТАЎ, ХЛОПЦЫ. СВАЛІЦЬ ГЭТАЕ СМЕЦЦЕ БЫЛО ТОЛЬКІ ПЕРШЫМ КРОКАМ. ВАШ ПРАЦОЎНЫ ДЗЕНЬ ЛЕДЗЬ ПАЧАЎСЯ.

САМАЯ ВЯЛІКАЯ ПРАБЛЕМА МАЙГО РАССЛЕДАВАННЯ – ТОЕ, ШТО Я НЕ ВЕДАЮ, КАГО МЫ ШУКАЕМ: ЖЫВУЮ ЖАНЧЫНУ ЦІ ТРУП.

АДЗІНЫ СПОСАБ ВЫСВЕТЛІЦЬ ГЭТА – АДНАЎЛЕННЕ КРЫВАВЫХ ДОКАЗАЎ. ВОСЬ ЧЫМ ВЫ БУДЗЕЦЕ ЗАЙМАЦЦА СЁННЯ РАНІЦАЙ.

ДОБРА, СУПЕР-ШПІК.

ГЭТАЯ КВАТЭРА ЗНАХОДЗІЦЦА ДАКЛАДНА ПАД КВАТЭРАЙ РУЖАНЬКІ. І ПЛАНОЎКА СУПАДАЕ.


FABLES 3. September, 2002. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to FABLES, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. Subscriptions to this title are offered only to readers who attest they are 18 years of age or older, or with written parental approval to readers under 18 years of age.















БУДЫНАК БУДЛЭНД У ЗАХОДНЯЙ ЧАСТЦЫ.
ЦІ ВЫ ЖАДАЛІ БАЧЫЦЬ МЯНЕ?


ПЕНТХАЎС – РЭЗІДЭНЦЫЯ КАРАЛЯ КОЎЛА, НЕАФІЦЫЙНАГА ПАЖЫЦЦЁВАГА МЭРА ФЭЙБЛТАЎНА.
ОХ, НАМ НЕ ПАТРЭБНЫЯ ФАРМАЛЬНАСЦІ, БЭЛА. НЕ ЗАРАЗ, КАЛІ ТУТ ТОЛЬКІ ТЫ І Я. ПРАХОДЗЬ.


ДЗЯКУЮ, СЭР. ШТО Я МАГУ ЗРАБІЦЬ ДЛЯ ВАС ГЭТАЙ РАНІЦАЙ?
МЯНЕ НЕПАКОІЦЬ ГЭТА НЕПРЫЕМНАЯ СІТУАЦЫЯ З ТВАЁЙ СЯСТРОЙ. ВЕЛЬМІ ТРАГІЧНАЯ, ЖАХЛІВАЯ СПРАВА. ЯК Я РАЗУМЕЮ, ТЫ ДАПАМАГАЕШ БОЗЛІ Ў РАССЛЕДАВАННІ?


ТАК, СЭР. Я ВЕДАЮ, ГЭТА НЕ ЗВЫЧАЙНЫ ПАРАДАК, АЛЕ Ў ГЭТАЙ СПРАВЕ Я ВЫРАШЫЛА, ШТО МАГЧЫМЫ ТАКІ ВАРЫЯНТ, УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО ГЭТА МАЯ...


ТАК, ВЯДОМА. З ГЭТЫМ НІЯКІХ ПРАБЛЕМ. АБСАЛЮТНА ЗРАЗУМЕЛА. КРЭЎНЫЯ СВАЯКІ ПАВІННЫ ПРЫГЛЯДАЦЬ АДЗІН ЗА АДНЫМ. МЫ МОЖАМ І НЕ ДУМАЦЬ ПРА СПРАВЫ ДЗЕНЬ-ДРУГІ...
СЭР?


МНЕ ПАТЭЛЕФАНАВАЛІ ЎНАЧЫ.
З СКАРГАЙ. КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНЫМ – СІНЯЯ БАРАДА. КОЖНЫ ГОД-ШЧОДРЫ ФУНДАТАР, ЛІДАР СУПОЛЬНАСЦІ.
СЦВЯРДЖАЕ, ШТО ВЫ І СПАДАР ВОЎК АБВІНАВАЦІЛІ ЯГО. ЗАБОЙСТВА. УВАРВАЛІСЯ ДА ЯГО З КРЫКАМІ.


КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНАЙ – МЫ НЕ УРЫВАЛІСЯ ДА ЯГО. СІНЯЯ БАРАДА САМ НАС ЗАПРАСІЎ. АЛЕ АСТАТНЯЯ ЧАСТКА ПРАЎДЗІВАЯ. БОЗЛІ ВІНАВАЦІЎ ЯГО ГУЧНА Ў ЗАБОЙСТВЕ.
ЧАМУ?
Crunch Monkey


НЕ УЯЎЛЯЮ. ГЭТА РАПТАМ ЗДАРЫЛАСЯ. НАСАМРЭЧ ЁН ТАКІМ ЧЫНАМ З ДЖЭКАМ З КАЗАК. ЯК МНЕ ЗДАЕЦЦА, АДЗІНАЙ СТРАТЭГІЯЙ БОЗЛІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ХАДЖЭННЕ АД АДНАГО ПАДАЗРОНАГА ДА ДРУГОГА І АБВІНАВАЧВАННЕ ІХ.


ЦІ НЕ ДУМАЕШ ТЫ, ШТО ЁН НЕ НА СВАІМ МЕСЦЫ? УРЭШЦЕ Ў БЫЛЫЯ ЧАСЫ ЁН НЕ БЫЎ ДЭТЭКТЫВАМ НА СТАРОЙ ЗЯМЛІ. ЗВЕР З САМЫХ ШАЛЁНЫХ. ЗАБОЙЦА. ЦІ НЕ ЗАНАДТА ДЛЯ ЯГО ГЭТА ПРАЦА?
ХТО ВЕДАЕ? ДАГЭТУЛЬ ЁН БЫЎ УЗОРАМ ПЕРАВЫХАВАННЯ.
ЯГО СПРАВА ЧЫСТАЯ З ЧАСОЎ АГУЛЬНАЙ АМНІСТЫІ. І Я НЕДАСТАТКОВА ВЕДАЮ ПРА ЯГО ДЭТЭКТЫЎНЫЯ ШТУКІ, КАБ АЦЭНЬВАЦЬ ЯГО ПРАЦУ.

«ПАКУЛЬ ШТО, БОЛЬШ ЦІ МЕНШ У ПАРАДКУ, МЫ ПАГУТАРЫЛІ З ДЖЭКАМ. ЯК ЯЕ ХЛОПЕЦ У ДАДЗЕНЫ МОМАНТ, ЁН БЫЎ НАШЫМ ПЕРШЫМ КАНДЫДАТАМ НА РОЛЬ ЗЛАЧЫНЦЫ».

Я НЕВІНАВАТЫ!

«ЁН СЦВЯРДЖАЕ, ШТО НЕ ВЕДАЕ НІЧОГА ПРА ЗНІКНЕННЕ РУЖЫ, АЛЕ Я НЕ ЎПЭЎНЕНА. АДНОЙЧЫ ЖУЛІК – ЖУЛІК НАЗАЎЖДЫ. ЗАРАЗ БОЗЛІ ПАКІНУЎ ЯГО АСТЫЦЬ У КАМЕРЫ ДЛЯ ЗАТРЫМАНЫХ У СКЛЕПЕ».

МАЖЛІВА ТЫ НІЧОГА І НЕ ЗРАБІЎ У ГЭТЫ РАЗ, ДЖЭК. АЛЕ ТЫ НІКОЛІ НЕ БЫЎ НЕВІНАВАТЫМ.

«ПОТЫМ МЫ ДАПЫТАЛІ СІНЕБАРОДА, ХОЦЬ ВЫ ЎЖО ЧУЛІ ЯК ЦУДОЎНА ГЭТА АДБЫЛАСЯ. Я ЛІЧУ, ШТО БОЗЛІ АБВІНАВАЦІЎ ЯГО ПРОСТА, КАБ СТРЭСЦІ З ЯГО ГЭТУ НАПЫШЛІВУЮ ПЫХУ, З ЯКОЙ ЁН ЗАЎСЁДЫ РАЗМАЎЛЯЕ КАЛЯ НАС, НІЖЭЙСТАЯЧЫМІ ГРАМАДЗЯНСКІМІ СЛУЖБОЎЦАМІ.

ЯК ВЫ АСМЕЛІЛІСЯ РАЗМАЎЛЯЦЬ СА МНОЮ ТАКІМ ЧЫНАМ?!

ХНЫК- -ХАЛЕРА- ХНЫК.

«ГЭТА ПАДЗЕЙНІЧАЛА, СІНЕБАРОД ЗДЗІВІЎ НАС ДАКУМЕНТАМ, ЯКІ БЕЗУМОЎНА ДАКАЗВАЕ, ШТО ЁН У ДАМОЎНАЙ ФОРМЕ ЗАРУЧАНЫ З РУЖАЙ, І ПАВІНЕН АЖАНІЦЦА НА ЁЙ АДРАЗУ ПАСЛЯ ДНЯ ПАМЯЦІ. Я ШЧЫРА СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ДАМОВА ФАЛЬШЫЎКА, БО АМННІСТЫЯ ЦІ НЕ, АЛЕ Я НЕ МАГУ ПРОСТА ТАК ЗАБЫЦЬ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З КОЖНАЙ З ЯГО БЫЛЫХ ЖОН».

НАВОШТА МНЕ ЗАБІВАЦЬ ЯЕ, КАЛІ МЫ БЫЛІ ЗАРУЧАНЫ?!

«У НАС ЁСЦЬ ТЭОРЫЯ НАКОНТ ЯГО, ЁН ПРЫРАЎНАВАЎ, КАЛІ РЫЖА КІНУЛА ЯГО, КАБ ВЯРНУЦЦА НАЗАД ДА ДЖЭКА, ТАМУ ЁН ЗРАБІЎ З ЁЙ СВАЮ ЖУДАСНУЮ РЭЧ, ЯКОЙ ЁН ВЯДОМЫ».

ПРАБЛЕМА ГЭТАГА СЦЭНАРА Ў ТЫМ, ШТО Ў МІНУЛЫМ ЯГО МОДУС АПЕРАНДЗІ СКЛАДАЎСЯ Ў ЗАБОЙСТВЕ ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ. У ШЛЮБНУЮ НОЧ, КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНАЙ.

ПОТЫМ МЫ ЗАЙШЛІ ДА ВЕДЗЬМЫ З ЧАРНАЛЕССЯ.

Я БЫЛА ПАСЛУХМЯНАЙ, ВОЎК.

ТАК, ТЫ ЧЫСТАЯ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ПРЫЕХАЛА Ў ГОРАД.

АЛЕ Я НЕ МАГУ НЕ ПАДУМАЦЬ ПРА ТВАЕ БЫЛЫЯ ПРЫХІЛЬНАСЦІ Ў ЕЖЫ!

ШТО АДКАЖАШ, БАБУЛЯ?! НАДАКУЧЫЛА ЕСЦІ ІМБІРНЫЯ ПЕРНІКІ?!

МІНУЛАЙ НОЧЧУ МЫ СУСТРЭЛІСЯ З МАІМ БЫЛЫМ МУЖАМ, З ЦУДОЎНЫМ ПРЫНЦАМ, У КАРЧМЕ "БРЭНСТОК". БОЗЛІ АДВЁЎ ЯГО Ў БОК, Я РАЗМОВЫ НЕ ЧУЛА. АЛЕ ЯНА НЕ ВЫГЛЯДАЛА ДОБРАЗЫЧЛІВАЙ.

ТВОЙ РАСПЕШЧАНЫ СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ ПАХІСНУЎСЯ, КАЛІ СНЕЖКА ПАДЛАВІЛА ЦЯБЕ Ў ЛОЖКУ З ЯЕ СЯСТРОЙ.

МЫ – ТЫ І Я – ВЫДАТНА ВЕДАЕМ, ШТО ТЫ ЗАНАДТА ЭГАІСТЫЧНАЯ ДУПА, КАБ ВІНАВАЦІЦЬ СЯБЕ Ў МНОСТВЕ ПАМЫЛАК , ТАМУ ТЫ І ВІНАВАЦІЎ РУЖУ! ТЫ ЎВЕСЬ ЧАС ВАСТРЫЎ НОЖ НА ЯЕ?

ЯНА ЗНІКЛА ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ТЫ ВЯРНУЎСЯ Ў ГОРАД. СУПАДЗЕННЕ, А?

ТЫ НУДНЫ І МАЛЕНЬКІ ЧАЛАВЕЧАК. ТАБЕ ТРЭБА ЧАСЦЕЙ МЫЦЦА.


І РАНЕЙ ЦІ ПАЗНЕЙ, КАРОЛЬ КОЎЛ, ВЫ ДАВЕДАЕЦЕСЯ, ШТО БОЗЛІ ЛІЧЫЦЬ ПАДАЗРОНАЙ І МЯНЕ.
ЁН ПРАВЁЎ ДОПЫТ УЧОРА НОЧЧУ.


Я НАВАТ НЕ ЎЯЎЛЯЮ, ЦІ ЗРАБІЎ ЁН З ГЭТАЙ РАЗМОВЫ ВЫСНОВЫ.
ТЫ І ТВАЯ СЯСТРА НЕ НАДТА СЯБРАВАЛІ Ў АПОШНІ ЧАС.
ШТО АГУЛЬНАВЯДОМА ЎЖО ГАДЫ. КАЛІ Б Я ЯЕ САПРАЎДЫ ДАСТАТКОВА НЕНАВІДЗЕЛА КАБ ЗАБІЦЬ, НАВОШТА МНЕ БЫЛО ЧАКАЦЬ, КАБ ЗРАБІЦЬ ГЭТА?
ТАМУ ШТО ДАГЭТУЛЬ ТЫ НЕ БЫЛА ДРУГОЙ ПЕРСОНАЙ У КІРАЎНІЦТВЕ ФЭЙБЛТАЎНА. І ТЫ НЕ МЕЛА МАГЧЫМАСЦІ ВЫКАРЫСТАЦЬ СВАЮ ПАЛІТЫЧНУЮ ВАГУ ДЛЯ ПРЫКРЫЦЦЯ СЛЯДОЎ.


НАСУПЕРАК МАЙМУ ЖАДАННЮ, ТЫ ЗАЛЕЗЛА Ў МАЁ РАСЛЕДАВАННЕ І МАЕШ ПРАВА ЗВОЛЬНІЦЬ МЯНЕ, КАЛІ Я ПАДЫЙДУ ЗАНАДТА БЛІЗКА. ДОБРАЯ ПЕРАВАГА ДЛЯ ЗАБОЙЦЫ.
АГА. Я ЎЛІЧУ ГЭТА, КАЛІ ЗБЯРУСЯ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ЗАБІЦЬ КАГОСЬЦІ.


"НАПРЫКАНЦЫ БОЗЛІ ЗАЎВАЖЫЎ, ШТО НАМ НЕ ТРЭБА ЗАБЫВАЦЬ ПРА ВОРАГА. ЯГО КРЫВАВЫ ЗАВАЁЎНІЦКІ ПАХОД ПА КАЗАЧНЫМ ЗЕМЛЯМ МАГЧЫМА НЕ СКОНЧЫЎСЯ, ПАСЛЯ ТАГО ЯК НЕКАТОРЫМ З НАС АТРЫМАЛАСЯ ЗБЕГЧЫ Ў СВЕТ ЗВЫЧАЙНЫХ.
МАГЧЫМА НЕКАТОРЫЯ З ЯГО АГЕНТАЎ ПАЙШЛІ ЗА НАМІ, КАБ ПРАЦЯГНУЦЬ ВАЙНУ СУПРАЦЬ НАС?"


ДРЭННЫЯ СПРАВЫ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. ЖАХЛІВА НАВАТ ДУМАЦЬ. АЛЕ ЎСЁ Ж НАВАТ ПЕРАД ТВАРАМ ТАКОЙ ТРАГЕДЫІ, МЫ НЕ ПАВІННЫ ЗАБЫВАЦЬ ПРА ДРУГІЯ ПЫТАННІ.


ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ІЗНОЎ БЛІЗКА НАВІС НАД НАМІ. ТРЭБА ПРА ЯГО ТАКСАМА ДУМАЦЬ, ТАК? ЦІ МАГЧЫМА НЕЯК ВЫРАШЫЦЬ ПЫТАННЕ ДА СВЯТА?
Я НЕ МАГУ АБЯЦАЦЬ...


ФЭЙБЛТАЎН – НАЙВАЖНЕЙШАЯ АДКАЗНАСЦЬ, ТВАЯ І МАЯ. ГЭТА ЎСЁ НА НАШЫХ ПЛЯЧАХ. ГЭТА ВЫСАКАРОДНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ, АЛЕ ДАЛІКАТНЫ. НЕТРЫВАЛЫ, СТВОРАНЫ З ДЗЯСЯТКА СВАРАК І З СОТНЯЎ СТАРЫХ КРЫЎД.


ЁН МОЖА ЛЁГКА РАЗВАЛІЦЦА З-ЗА ГЭТАГА ВЫПАДКА.
Я РАЗУМЕЮ ГЭТА, СЭР, АЛЕ...


ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ – ГЭТА БОЛЕЙ ЧЫМ ВЕЧАРЫНА. ГЭТА МОМАНТ, КАЛІ МЫ АТРЫМЛІВАЕМ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ЎКЛАДАННЯЎ – НАШАГА ПРАЦОЎНАГА БЮДЖЭТА НА НАСТУПНЫ ГОД.
І КАШАЛЬКІ ЗАЧЫНЯЦЦА НАСТОЛЬКІ, НАКОЛЬКІ БУДЗЕ СТРАЧАНА УПЭЎНЕНАСЦЬ У НАШЫМ МАЛЕНЬКІМ УРАДЗЕ, ЗРАЗУМЕЛА?


ДУМАЮ, ТАК.
ВЯДОМА, ТЫ РАЗУМЕЕШ. ТЫ РАЗУМНАЯ. ТЫ ВЫРАШЫШ УСЕ ПЫТАННІ. РАБІ, ШТО ТРЭБА, АЛЕ КАБ ГЭТА ПЫТАННЕ БЫЛО ВЫРАШАНА ДА БАЛЮ.


Я ГАТОВЫ. ПАДНОС, КАЛІ ЛАСКА.


ТРЫМАЮ. ДЗЯКУЙ. ЦІ МОЖАШ АДЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ?


ДОБРАГА ПАЛЯВАННЯ, СЭР.


КАРОЛЬ КОЎЛ ЗДЗІВІЎ МЯНЕ.


ЁН ЗМОГ ЭТРЫМЛІВАЦЦА АМАЛЬ ДВА ДНІ ПЕРАД ТЫМ ЯК НАЦІСНУЦЬ НА МЯНЕ, КАБ Я ВЫРАШЫЎ ПЫТАННЕ.
ДЗЕ ТЫ ЎЗЯЎ УСЁ ГЭТА?
З КВАТЭРЫ ДЖЭКА. ТОЛЬКІ СКОНЧЫЎ ТАМ ПЕРАТРУС. ТАМ ШМАТ КАМП'ЮТАРАЎ. ПРЫНАМСІ ШЭСЦЬ ПАЎНАВАРТАСНЫХ СІСТЭМ. Я ЗАБРАЎ АДНУ, КАБ ТЫ ЗМАГЛА ПАКАПАЦЦА І ВЫСВЕТЛІЦЬ, ЧЫМ ЁН ЗАЙМАЎСЯ.
ЧАМУ Я? ЧАМУ ТЫ САМ ГЭТА НЕ ЗРОБІШ?


ТАМУ ШТО Я НЕ МАГУ КАРЫСТАЦЦА ЎСІМ ГЭТЫМ. МАШЫНЫ МЯНЕ НЕНАВІДЗЯЦЬ. Я ЛУДЫТ НА ГЕНЕТЫЧНЫМ ЎЗРОЎНІ, НЕ МАГУ КАРЫСТАЦЦА ЧЫМСЦІ СКЛАДАНЕЙ ТОСТАРА.
А ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ, КАЛІ Я БУДУ ВЫКОНВАЦЬ РАБОТУ ДЛЯ ЦЯБЕ?


ЁСЦЬ СПРАВЫ. У ДЖЭКА АБЕДЗЕННЫ ЧАС, ТАМУ ПАЙДУ НАВЕДАЮ ЯГО. І МНЕ ТРЭБА ЎСЁ ЯШЧЭ ВЫСВЕТЛІЦЬ НЕКАЛЬКІ ДЭТАЛЕЙ ПА СПРАВЕ.
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО СПРАВА АМАЛЬ ВЫКРЫТА?


АГА. Я ВЫКРЫЎ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ЯШЧЭ Ў ПЕРШУЮ ГАДЗІНУ. Я ЎЖО ШМАТ ВЕДАЮ ПРА ТОЕ, ШТО АДБЫЛОСЯ. І БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ТАГО ЯК, АЛЕ Я ЎСЁ ЯШЧЭ ЧАСТКОВА НЕ ВЕДАЮ ХТО І ЧАМУ.
І КАЛІ МЕНАВІТА ТЫ ЗБІРАЎСЯ ЎВЕСЦІ МЯНЕ Ў КУРС СПРАВЫ?


КАЛІ Я БУДУ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ГЭТА НЕ ТЫ ЗЛОДЗЕЙ У ГЭТАЙ ЗАГАДЦЫ.
ХОЦЬ БЫ АДКАЖЫ, ЦІ ЖЫВАЯ ЯНА?
ПАБАЧЫМ.


ТЫ БЫВАЕШ ДАХАЛЕРЫ РАЗДРАЖНЯЛЬНЫМ КУРВІНЫМ СЫНАМ!
У МАІМ ВЫПАДКУ ЛІТАРАЛЬНА, АЛЕ ЯНА БЫЛА КЛАПАТЛІВАЙ І ЛЮБІЛА МЯНЕ. ЛЕПШАЯ МАЦІ, ПРА ЯКУЮ МОЖА МАРЫЦЬ ЛЮБЫ ХЛОПЧЫК.


КАЛІ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАБАЧЫЦЦА З ЦУДОЎНЫМ ПРЫНЦАМ?
НІКОЛІ БУДЗЕ ДОБРА. А ШТО?
ТАМУ ШТО Я ЖАДАЮ ДАПАМАГЧЫ ЯМУ ПРАДАЦЬ ТЫТУЛ, АЛЕ НЕ ЗУСІМ ТАК, ЯК ЁН ЖАДАЕ.
ЧАМУ ТЫ КЛАПОЦІШСЯ ПРА ГЭТА? ШТО ТЫ НАДУМАЎ?


ВАР'ЯЦКАЯ І НЕЙМАВЕРНАЯ СХЕМА, КАБ УСЁ БЫЛО ВЫКРЫТА Ў КАНЦЫ, БЕЗ ЛІШНЯГА КРОВАПРАЛІЦЦЯ. І ТОЛЬКІ МАГЧЫМА, ШТО КАЗАЧНАЯ СУПАЛЬНАСЦЬ НЕ БУДЗЕ ПРЫ ГЭТЫМ ЗНІШЧАНА.
АЛЕ "МАГЧЫМА" НЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ.


У БУДЫНКУ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА КВАТЭРА РУЖЫ...
НЕЕЕ, МУХАЛОЎ, УВАЖЛІВЕЙ.
ШЧАСЛІВА, А НЕ ШЧАЛІВАЦЬ.


ШЧАСЛІВА: Ш-Ч-А-С-Л-І-В-А.
БОЛЬШ НІЯКАГА ДОЎГА І ШЧАСЛІВА.


"БОЛЬШ НІЯКАГА ДОЎГА І ШЧАЛІВАЦЬ" – ГЭТА НЕЙКАЯ БЯЗГЛУЗДЗІЦА. НАВАТ ДЛЯ ХЛОПЦА, У ЯКОГА ЖУКІ НА АБЕД.
Я НЕ ЗМОГ СТРЫМАЦЦА І З'ЕЎ АДНУ МУХУ ПАСЛЯ СТА ГАДОЎ НАРМАЛЬНЫХ ЧАЛАВЕЧЫХ ЗВЫЧАК – І ВОСЬ, ЗАПЭЦКАНЫ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ.


ВЫДАТНА!
Я ДУМАЮ, УСЁ. Я ДУМАЮ, ШТО МЫ СКОНЧЫЛІ.
ДЫК КОЛЬКІ КРЫВІ МЫ ВЫ-КАРЫСТАЛІ?


ВЕСТЫБЮЛЬ ВУДЛЭНД.
5 дзён да Дня Памяці квіткі яшчэ не распрададзены
ПРАЧНІСЯ, ГРЫМБЛ.
ПРАБАЧ, ШТО ПЕРАРЫВАЮ ПЕРШУЮ Ў ТВАІМ ЗАБОЙНЫМ РАСКЛАДЗЕ ДРЫМОТУ, АЛЕ МНЕ ПАТРЭБНЫЯ КЛЮЧЫ АД КАМЕРЫ ДЛЯ ЗАТРЫМАНЫХ.
НАВОШТА?
ЧАС ЗАТРЫМАНАМУ ПАДСІЛКАВАЦЦА.
ФАЙЛЫ


ІЗНОЎ? ВЫ СПРАБУЕЦЕ ВЫКАРМІЦЬ ЯГО НА ЗАБОЙ? КАЛІ ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ АБЫХОДЗІЦЦА З ВЯЗНЯМІ ДОБРА, ТО Я ЖАДАЮ БЫЦЬ НАСТУПНЫМ.


ПРА ШТО ТЫ КАЖАШ?
ЯГО СВЕТЛАСЦЬ ГНАЯВЫХ КУЧ ПРЫНЁС ВАШАМУ ХЛОПЦУ ВЫДАТНЫ АБЕД. ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН ТАМУ. СМАЖАНАЯ КУРЫЦА З ЧАСНАКОМ, КАЛІ МОЙ НОС НЕ ХЛУСІЦЬ.


ХТО ГЭТА БЫЎ?
СІНЯЯ БАРАДА. УЛАСНАЙ КАРАЛЕЎСКАЙ ПЕРСОНАЙ. ВОСЬ ХТО. ЁН КАЗАЎ, ШТО ВЫ ЯМУ ДАЗВОЛІЛІ.


У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ КАЛІ ВАМ СПАТРЭБЯЦЦА КЛЮЧЫ, ВАМ ТРЭБА БУДЗЕ ЗАБРАЦЬ У ЯГО, БО ЁН ІХ ЯШЧЭ НЕ ВЯРНУЎ.
ХАЛЕРА!
ПЧЕЛА БИЛЛИ ГАМБУРГЕРЫ






Я НІЧОГА НЕ РАБІЎ ЁЙ!


ТЫ МОЖАШ ТАКСАМА ЎСЁ РАСПАВЕСЦІ ЗАРАЗ, ХЛОПЧА. Я МАЮ НАМЕР РЭЗАЦЬ ЦЯБЕ ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ І ЎСЮ НОЧ, ПАКУЛЬ ТЫ НЕ ПРЫЗНАЕШСЯ.


КАЖЫ ЗАРАЗ – І ТЫ ЗМОЖАШ ПАЗБЕГНУЦЬ БОЛІ.
КІНЬ НОЖ І АДЫДЗІ АД ХЛОПЦА...

... ЦІ Я ПАРВУ ТВАЮ ГЛОТКУ.

ОХ, ПАГЛЯДЗІЦЕ! ПАСЛЯ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ ВОЎК НАРЭШЦЕ ЗБРОСІЎ СВОЙ АВЕЧЫ ГАРНІТУР І ПАКАЗАЎ СВОЙ САПРАЎДНЫ ТВАР.

БОЛЬШАСЦЬ З НАС ВЕДАЛІ, ШТО ГЭТА ПЫТАННЕ ЧАСУ, ПАКУЛЬ ТЫ ВЕРНЕШСЯ ДА БЫЛОГА ЖЫЦЦЯ, БОЗЛІ. НАТУРУ НЕ ПЕРАГУЛЯЦЬ.
















АРГУМЕНТ ПРЫНЯТЫ. АЛЕ ТЫ НІЯК НЕ ЗМОЖАШ ДАБРАЦЦА ДА МЯНЕ ПЕРАД ТЫМ, ЯК Я ПЕРАРЭЖУ ГЛОТКУ ГЭТАЙ ШЭЛЬМЕ.
ТЫ НЕ ЖАДАЕШ РАБІЦЬ ГЭТАГА!
БУДЗЬ МАІМ ГОСЦЕМ. Я ЖАДАЮ ЗНІШЧЫЦЬ ГЭТУ ПАГРОЗУ Ў МАІМ ЖЫЦЦІ.


БОЗЛІ! НЕ ТРЭБА ЯМУ ДАВАЦЬ ІДЭІ! ЁН ПРОСТА ЖАРТУЕ, СІНЕБАРОД. НЕ СЛУХАЙ ЯГО. НА САМАЙ СПРАВЕ ЁН ВЕЛЬМІ МЯНЕ ЛЮБІЦЬ.
А ПОТЫМ Я ЦАЛКАМ ПРАВАМЕРНА ЗАБ'Ю ЦЯБЕ...


ПАСТОЙЦЕ! АБОДВА! МЫ НЕ ЖАДАЕМ ДАМОВІЦЦА ДА НЕАБДУМАНЫХ ДЗЕЯННЯЎ.
ХЛОПЦЫ?
ДАВАЙЦЕ АДСТУПІМ, ГЛЫБОКА ЎЗДЫХНЁМ, АБВЯСЦІМ ХВІЛІННЫ МАРАТОРЫЙ НА БІЦЦЁ КУЛАКАМІ Ў ГРУДЗІ І ПАГЛЯДЗІМ, ЦІ НЕ МОЖАМ МЫ РАЦЫЯНАЛЬНЕЙ УСЁ АБДУМАЦЬ. ДОБРА?


ХУТЧЭЙ!


ПАДЫМІ МАЕ ЧАРАВІКІ, ДЖЭК.
ТЫ МАЖЛІВА НЕ ЗАЎВАЖЫЎ, ШТО Я СПЛЫВАЮ КРЫВЁЙ? МНЕ ПАТРЭБНЫ ДОКТАР.
НЕБАРА-КА.


УХ ТЫ!
ОЙ!
ДЗЕ ПАЖАР, ДЗЕТКІ?


МЫ ШЛІ РАТАВАЦЬ ЦЯБЕ.


МАЯ ГЕРАІНЯ.
ТУТ КАМУСЬЦІ ПАТРЭБНЫ ДОКТАР, Я СПЛЫВАЮ КРЫВЁЙ.
СУПАКОЙСЯ, ДЖЭК, У ЦЯБЕ ЎСЁ ДОБРА.


ДЖОН, ЦІ НЕ МАГЛІ Б ВЫ З ГРЫМБЛАМ ДЖЭКА І ВЫКАРЫСТАЦЬ АПТЭЧКУ КАЛЯ СТАЛА? А ПОТЫМ АДВЯДЗІЦЕ ЯГО ДАДОМУ І ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ЁН НІКУДЫ АДТУЛЬ НЕ СЫДЗЕ.
ДЗЕ СІНЕБАРОД?


ЁН ВЫЗВАЎСЯ ЗАНЯЦЬ МЕСЦА ДЖЭКА Ў ТУРМЕ. Я СПАДЗЯЮСЯ, КАМЕРА ЯМУ ПАДАБАЕЦЦА. ЯМУ ТАМ СЯДЗЕЦЬ ЯШЧЭ ШМАТ.
ЁН КАТАВАЎ ДЖЭКА, КАЛІ Я ПРЫЙШОЎ.


НАВОШТА?
НАПЭЎНА ЁН ПАВЕРЫЎ НАЙБОЛЬШ ЖОРСТКІМ ЧУТКАМ ПРА ТОЕ, ШТО САПРАЎДЫ ЗДАРЫЛАСЯ З РУЖАНЬКАЙ.


ШТО ТЫ ЗБІРАЛАСЯ РАБІЦЬ З ГЭТЫМ ВЯЛІЗАРНЫМ МЯЧОМ?
ДАПАМАГАЦЬ ТАБЕ.
Я УСЦЕШАНЫ, АЛЕ ДОБРА, ШТО ТЫ НЕ ПРЫЙШЛА РАНЕЙ. СІНЕБАРОД НАСТОЛЬКІ МАЙСТЭРСКІ МЕЧНІК, НАКОЛЬКІ ТЫ НЕ.


ЁН МОГ БЫ АДАБРАЦЬ ГЭТУ РЭЧ І ЗРАБІЦЬ ДРЭННА НАМ АБОДВУМ.


НЕ РАНЕЙ, ЧЫМ Я Б АДЗІН РАЗ ДОБРА РЭЗАНУЛА ЯГО. І ГЭТАГА БЫЛО Б ДАСТАТКОВА. ГЭТА ЗНАКАМІТЫ БАРМАГЛОТАМ, ЗАБІВАЕ ЗА АДЗІН УДАР. МЕЧ ДЛЯ ХАТНІХ ГАСПАДЫНЬ? САМ ВАЮЕ ЗА ЦЯБЕ?


ОХ, ЦУДОЎНА. ТАДЫ НЕ НАСІ ЯГО ТАКІМ ЧЫНАМ, БО АДСЯЧЭШ САБЕ ГАЛАВУ. ТЫ МНЕ ПАТРЭБНА ЦАЛКАМ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ НА ВЯЛІКАЙ ВЕЧАРЫНЕ.
ПРАБАЧ?


НУ Я БУДУ ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА ВЫГЛЯДАЦЬ, ЦЯГАЮЧЫ З САБОЙ ЖАНЧЫНУ БЕЗ ГАЛАВЫ ПА БАЛЬНАЙ ЗАЛЕ.
КАЛІ ГЭТА МЫ ВЫРАШЫЛІ, ШТО Я ІДУ НА БАЛЬ З ТАБОЙ? І ЯШЧЭ ПЫТАННЕ – КАЛІ ТЫ ВЫРАШЫЎ ІСЦІ? ТЫ Ж ЗВЫЧАЙНА НЕ ХОДЗІШ НА ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ.


НЕ МАГУ ПАЗБЕГНУЦЬ ЯГО СЁЛЕТА. КАЛІ ЁСЦЬ НЕЙКІ ШАНЕЦ ВЫРАШЫЦЬ УСЁ. Я ПАВІНЕН БЫЦЬ ТАМ, А ТЫ ПАВІННА БЫЦЬ ТАМ ЯК МАЯ ПАРА.
УСЁ ГЭТА ВЕЛЬМІ СКЛАДАНА, І Я НЕ МАГУ РАСТЛУМАЧЫЦЬ ГЭТА. ТАМУ ТЫ ПРОСТА ПОЙДЗЕШ


ЗАРАЗ, КАЛІ ТЫ ВЫБАЧЫШ МНЕ, Я ПАВІНЕН ПАЙСЦІ ДАДОМУ І ПЕРААПРАНУЦ-ЦА.


ДЗЫНННЬ ДЗЫННННЬ
ПРЫТРЫМАЙЦЕ ПОРТКІ! Я ЗАРАЗ!
АЛЁ?
ZZZZZ


ШТО? АХ ТАК. ПРАБАЧ, Я БЫЎ ПА-ЗА ЗОНАЙ ДОСТУПУ АМАЛЬ УВЕСЬ ДЗЕНЬ.
ШТО ВЫ ВЫСВЕТЛІЛІ? ТАК, ДОБРА.


ЯШЧЭ НЕ. У МЯНЕ ДЛЯ ВАС ЁСЦЬ ЯШЧЭ АДНА ДРЭННАЯ НАВІНА. ВАМ ТРЭБА ПРЫБРАЦЦА, ШВАБРА, ВОСК, МЫЮЧЫЯ СРОДКІ І ФАРБА, ПАКУЛЬ УСЁ НЕ БУДЗЕ Ў ПЕРШАПАЧАТКОВЫМ СТАНЕ.
І ВАМ ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ ХУТКА, БО МЫ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ АРЭНДНУЮ ПЛАТУ ТОЛЬКІ ЗА ДВА ДНІ.

КАЛІ СКОНЧЫЦЕ З ГЭТЫМ, ПАДНІМІЦЕСЯ Ў КВАТЭРУ РУЖАНЬКІ І ЗРАБІЦЕ ТАКСАМА ПРЫБОРКУ.
НЕ. МНЕ БОЛЕЙ НЕ ТРЭБА ЗАХОЎВАЦЬ ДОКАЗЫ.

УРЭШЦЕ ЗБЯРЫЦЕ ЗЛАМАНУЮ МЭБЛЮ З АБЕДЗВЮХ КВАТЭР НА ПАМЫЙНІЦУ І СПАЛІЦЕ.
І НЕ ДАЗВАЛЯЙЦЕ ЗВЫЧАЙНЫМ УБАЧЫЦЬ ВАС.
КАЛІ ЎСЁ ГЭТА ЗРОБІЦЕ- ІДЗІЦЕ ДАДОМУ.
АГА, НУ МАЁ СЭРЦА ЗБАЛЕЛАСЯ ПРА ВАС: КАЖУЦЬ, ШТО ЛЁГКА БЫЛО ТОЛЬКІ ЎЧОРА.


НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН ПАЗНЕЙ...
БОЗЛІ, ДОБРА, ШТО ТЫ ЗАЙШОЎ ДА ТАГО, ЯК ПАЙШОЎ СПАЦЬ. ТЫ НЕ ПАВЕРЫШ, ЧЫМ ДЖЭК ЗАЙМАЎСЯ ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС.
ЗДАЕЦЦА, ШТО ДЖЭК БЫЎ УЛАДАЛЬНІКАМ DREAM-WORLDZ.COM.

ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ СТАРТАП-КАМПАНІІ ПА ПРЫГОДНІЦКІМ ТУРАМ, ЯКУЮ ЁН ПРАДВІГАЎ УЖО ГОД.
Я СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО ТЫ ЎЖО ПАЙШЛА ДАДОМУ, ТАМУ Я МАГУ АДКЛАСЦІ ГЭТА ДА РАНІЦЫ.

ГЭТА ДЖЭК МОГ СПРАБАВАЦЬ ЗАСЯДЛАЦЬ ХВАЛЮ ІСТЭРЫІ НАКОНТ УКЛАДАЎ У ІНТЭРНЭЦЕ ТОЛЬКІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК УСЕ ПАРАЗУМНЕЛІ Ў ГЭТЫХ СПРАВАХ.
ЗДАЕЦЦА, ШТО ЁН ЗГУБІЎ ШМАТ ГРОШАЙ НА СВАЁЙ АПОШНЯЙ "ХУТКА-РАЗБАГАЦЕЙ" СХЕМЕ.
БЭЛА, ТАБЕ ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ДРЭННАЙ НАВІНЫ.

АЛЕ ДЗЕ ДЖЭК УЗЯЎ ГРОШЫ, ЯКІЯ ЗГУБІЎ?
ШТО? ШТО ТЫ СКАЗАЎ?
У СЯРЭДНЕ-СТАТЫСТЫЧНАЙ ЖАНЧЫНЕ ЛЕДЗЬ БОЛЕЙ ЧАТЫРОХ ЛІТРАЎ КРЫВІ. НЕЗВАРОТНЫ ШОК, НАСТАЕ КАЛІ ЗГУБЛЕНА БОЛЕЁ ЧО АДСОТКАЎ ГЭТАГА АБ'ЁМУ.

Я ДАВЕДАЎСЯ, ШТО РУЖАНЬКА ЗГУБІЛА КАЛЯ 2,5 ЛІТРАЎ КРЫВІ.
АЛЕ...? НЕ, НЕ КАЖЫ ГЭТАГА...

ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО БОЛЕЙ НЯМА НАДЗЕІ, ШТО РУЖА ЎСЁ ЯШЧЭ ЖЫВАЯ.
ПРАБАЧ.
ДАЛЕЙ: ДЭТЭКТЫЎНЫ РАМАН

VERTIGO
SUGGESTED FOR MATURE READERS

ISSUE 4

BILL WILLINGHAM | LAN MEDINA | CRAIG HAMILTON

October 2002 | 2.50 | can 4.25

# FABLES™




ПАДАННІ #4 (2002)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ
АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ

BY COMICS

vertigocomics.com
























FABLES 4. October, 2002. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to FABLES, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. Subscriptions to this title are offered only to readers who attest they are 18 years of age or older, or with written parental approval to readers under 18 years of age. 
Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–An AOL Time Warner Company

ДАЎНЫМ-ДАЎНО БЫЛІ ТЫСЯЧЫ КАРАЛЕЎСТВ, РАСКІДАНЫЯ ПА СОТНІ І БОЛЕЙ ЧАРОЎНЫХ СУСВЕТАЎ.

МЫ БЫЛІ КАРАЛЯМІ І ШАЎЦАМІ.

ЧАРАЎНІКАМІ І ЦЯСЛЯРАМІ.

У НАС БЫЛІ СВАЕ ГРЭШНІКІ І СВЯТЫЯ. І СВАЕ, ЯКІЯ НАРОВІЛІ ЎЛЕЗЦІ ВЫШЭЙ.

І АД НАЙВЯЛІКШАГА ЛОРДА ДА ПРОСТАЙ СЯЛЯНКІ МЫ БЫЛІ ПРОСТА НЕЗНАЁМЦАМІ ДА АДЗІН АДНАГО.


"ЗА САМЫМІ ДАЛЁКІМІ КУТКАМІ НІЧОГА, У АДДАЛЕНЫМ КАРАЛЕЎСТВЕ ЖЫЎ ВОРАГ, ПАКІНУТЫ ЎСІМІ, ПАКУЛЬ СТАГОДДЗЯМІ РАСЛІ ЯГО МОЦ І АМБІЦЫІ.
АДНЫ КАЖУЦЬ, ШТО ЁН БЫЎ ПРОСТЫМ ЛЯСНЫМ ДУХАМ, ДРУГІЯ СЦВЯРЖАЮЦЬ, ШТО ЁН АДНОЙЧЫ БЫЎ БОГАМ...
"...ЗРЫНУТЫМ З БЯСКРАЙНІХ НЯБЁСАЎ, КАЛІ ЯГО ЗАГАННАСЦЬ СТАЛА ЗАНАДТА ВЯЛІКАЙ ДЛЯ ЦЯРПЕННЯ ЯГО ВЕЛІЧНЫХ ПАБРАЦІМАЎ.


ЯКІМ БЫ НІ БЫЛО ЯГО САПРАЎДНАЕ ПАХОДЖАННЕ, ЁН ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў ЦЁМНУЮ ВЕЧНА ГАЛОДНУЮ СУТНАСЦЬ.
І ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН ЗАВАЯВАЎ УЛАСНЫЯ ЗЕМЛІ, ЗАБІЎ КОЖНАГА З БЫЛЫХ КАРАЛЁЎ, ЁН ЗВЯРНУЛ СВАЕ НЕПАМЕРНЫЯ АПЕТЫТЫ У НАШЫМ НАКІРУНКУ.


КАЛІ СМАРАГДАВАЕ КАРАЛЕЎСТВА ЎПАЛА, МЫ ЗАБУРЧАЛІ І ПАЧАЛІ АБУРАЦЦА...
...АДЧУВАЯ СМУТАК ЗА ЛЁС ТЫХ НЯШЧАСНЫХ ДУШ, АЛЕ МЫ НЕ ЖАДАЛІ УЦЯГВАЦЦА.


ЗРЭШТЫ РЭШТ, ЯНЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ДЗІЎНЫМ НАРОДЦАМ.
ГЭТА БЫЛА НЕ НАША СПРАВА.


"ПОТЫМ УПАЛА КАРАЛЕЎСТА ВЯЛІКАГА ІЛЬВА, І ІЗНОЎ МЫ НІЧОГА НЕ ЗРАБІЛІ, БО ЗАЎСЁДЫ ЛІЧЫЛІ, ШТО НА НАШ ГУСТ СТАРЫ ЛЕЎ БЫЎ НАПЫШЛІВЫМ І ЗАНАДТА КУРЧЫЎ З СЯБЕ СВЯТОШУ.


АДНА ЗА ДРУГОЙ, НАШЫ РАЗ'ЯДНАНЫЯ ЗЕМЛІ ПАЙШЛІ ПАД УЛАДУ ВОРАГА, ПРАГЛЫНУТЫЯ ІМПЕРЫЯЙ, ЯКАЯ ПАВЯЛІЧВАЛАСЯ І ПАВЯЛІЧВАЛАСЯ. МЫ МАГЛІ Б СПЫНІЦЬ ЯГО, КАЛІ Б АБ'ЯДНАЛІСЯ РАНЕЙ.


АЛЕ КАЛІ МЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО ЁН НЕ ТОЛЬКІ ЖАДАЎ ЗАХАПІЦЬ ТУЮ ЗЕМЛЮ АБО ТЫХ ЛЮДЗЕЙ... ШТО ЁН ПРЫЙШОЎ ЗА ЎСІМІ НАМІ... БЫЛО ЗАНАДТА ПОЗНА.


ЁН СТАЎ ЗАНАДТА МОЦНЫ.
У ШМАТ КАГО З НАС НЕ БЫЛО АНІ ШАНЦУ СХАВАЦЦА."

НЕКАТОРЫЯ З НАС ВЫЖЫЛІ, АЛЕ ТОЛЬКІ НЕКАТОРЫЯ. У АДЗІНОЧКУ ЦІ МАЛЕНЬКІМІ ГРУПАМІ НА ПРАЦЯГУ МНОГІХ ГАДОЎ... ЖЫЦЦЯЎ... МЫ ХАВАЛІСЯ І БЕГЛІ АД ПЛЕНУ.

МЫ ЖЫЛІ ЯК ЗЛАЧЫНЦЫ І ПРЫВІДЫ.

ПАКУЛЬ МЫ НЕ ЗМАГЛІ ДАЙСЦІ СЮДЫ, У НУДНЫ МІР ЗВЫЧАЙНЫХ. АДЗІНЫ МІР, ЯКІ НЕ ЦІКАВІЦЬ ВОРАГА.

ПАКУЛЬ МЫ НЕ ЗМАГЛІ ДАЙСЦІ СЮДЫ, У НУДНЫ МІР ЗВЫЧАЙНЫХ. АДЗІНЫ МІР, ЯКІ НЕ ЦІКАВІЦЬ ВОРАГА. І ТУТ, АБ'ЯДНАНЫЯ АГУЛЬНЫМ ВОРАГАМ...

І ТУТ, АБ'ЯДНАНЫЯ АГУЛЬНЫМ ВОРАГАМ, МЫ НАВУЧЫЛІСЯ ЗАБЫВАЦЬ СТАРЫЯ КРЫЎДЫ. МЫ ПРАБАЧЫЛІ ШМАТ НАШЫХ КРЫЎД, КАБ ДАМОВІЦЦА.

І ЗАРАЗ ДРАПЕЖНІК І АХВЯРА, ПРЫНЦ І ЖАБРАК – МЫ ЎСЕ АДНА СУПОЛЬНАСЦЬ...

...АБ'ЯДНАНАЯ НАШАЙ НЕЗГАСАЛЬНАЙ ПАМЯЦЦЮ ПРА РОДНЫЯ ЗЕМЛІ І НЯЗЛОМНАЙ УПЭЎНЕНАСЦЮ, ШТО МЫ АДНОЙЧЫ ВЕРНЕМСЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЬ ЗЕМЛІ АД НЕНАВІСНАГА.




СЁННЯ НОЧЧУ, ДЗЕСЬЦІ ПА ЎСЯМУ ГОРАДУ, У КВАТЭРАХ...


... І Ў ЛЮБІМЫХ ПУБЛІЧНЫХ МЕСЦАХ...


... У ДАМАХ ЗА ГОРАДАМ, ДЗЕ ЖЫВУЦЬ НАШЫ БРАТЫ З НЕЧАЛАВЕЧЫМ ВЫГЛЯДАМ...


... ПАДЫМУЦЬ КУФЛІ І ТЫЯ, ХТО НЯ МОЖА БЫЦЬ З НАМІ ТУТ І СЁННЯ, АЛЕ ЯКІЯ ТАКСАМА З'ЯЎЛЯЮЦЦА ГРАМАДЗЯНАМІ ФЭЙБЛТАЎНА І ТАКСАМА ПОЎНЫЯ РАШУЧАСЦІ НІКОЛІ НЕ ЗАБЫВАЦЬ.




ВІТАНКІ, ПІНОКІА! ДАЎНО ЦЯБЕ НЕ БАЧЫЛА.
ПАДАБАЕЦЦА ВЕЧАРЫНКА?
НЕ.


Я САПРАЎДЫ НІКОЛІ НЕ БАЎЛЮ ЧАС ТУТ ДОБРА. НІКОЛІ НЕ БАВІЎ ЧАС ДОБРА НА ГЭТЫМ ТУПЫМ СВЯЦЕ.
ТАДЫ ЧАМУ ТЫ ПРЫХОДЗІШ СЮДЫ КОЖНЫ ГОД?


ТАМУ ШТО РАНЕЙ ЦІ ПАЗНЕЙ ГЭТА БЛАКІТНАЯ ФЕЯ, ЯКАЯ ПЕРАТВАРЫЛА МЯНЕ Ў САПРАЎДНАГА ХЛОПЧЫКА, З'ЯВІЦЦА НА АДНОЙ З ГЭТЫХ ВЕЧАРЫНАК І Я ЗБІРАЮСЯ ДОБРА НАБІЦЬ ЯЕ БЛАКІТНУЮ МОРДУ.
НАВОШТА? Я ДУМАЛА, ШТО ТЫ ЖАДАЎ СТАЦЬ САПРАЎДНЫМ ХЛОПЧЫКАМ?


ВЯДОМА, Я ЖАДАЎ. АЛЕ ХТО ВЕДАЎ, ШТО МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗАСТАЦЦА ХЛОПЧЫКАМ НАЗАЎСЁДЫ? ГЭТА КУРВА ЗРАЗУМЕЛА МАЁ ЖАДАННЕ ЗАНАДТА ЛІТАРАЛЬНА.


МНЕ ЎЖО БОЛЬШ ТРОХСОТ ГАДОЎ, І Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ ДАРОСЛЫ Ў ПАЛАВЫМ ПЛАНЕ.
Я ЖАДАЮ ВЫРАСЦІ, ЖАДАЮ, КАБ У МЯНЕ АДРАСЛІ ЯЙКІ, ЖАДАЮ АДПЯРДОЛІЦЦА.


ВЫ, АБОДВА! ХОПІЦЬ НЫЦЬ І ГАЛАСІЦЬ!


АЛЕ МЫ ПРАПУСКАЕМ СВЯТКАВАННІ!
ПАСПРАБУЙЦЕ ЎПІХНУЦЬ У СВАЕ ЧЭРАПЫ, ШТО ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ПРАПУСЦІЦЬ НЯ ТОЛЬКІ ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ, АЛЕ НАПЭЎНА І СОТНЮ НАСТУПНЫХ.
У МЯНЕ ДАСТАТКОВА НА ВАС АБОДВУХ, КАБ АДАСЛАЦЬ ВАС НА ФЕРМУ НА СТАГОДДЗЕ ПРАЦАТЭРАПІІ.
АЛЕ МАГЧЫМА ЁСЦЬ ДРУГІ ВАРЫЯНТ – ЯК УСЕМ НАМ ПАЗБЕГНУЦЬ ГЭТАЙ СУРОВАЙ НЕАБХОДНАСЦІ.


ХАЛЕРА, БОЗЛІ! ВЯДОМА, СІНЕБАРОД ТВОЙ, ТАМУ ШТО ТЫ СХАПІЎ ЯГО, КАЛІ ЁН КАТАВАЎ МЯНЕ...
ПРЫКРЫЙ ЗЯПУ, ЖАЛАСНАЕ ДЗІЦЁ.
...АЛЕ ТЫ НІЧОГА НА МЯНЕ НЕ МАЕШ... НІЧОГА, ШТО ТЫ МОЖАШ ДАКАЗАЦЬ.


ТЫ БЛІЗКІ ДА ТАГО, КАБ ДАВЕДАЦЦА ДАКЛАДНА, КОЛЬКІ Я МАГУ ДАКАЗАЦЬ. АЛЕ ПАКУЛЬ Я НЕ ГРУКНУЎ МАЛАТКОМ, ВЫ АБОДВА МАЕЦЕ МАГЧЫМАСЦЬ ПАЙСЦІ НА ВЕЧАРЫНКУ – З УМОВАЙ, ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ ТРЫМАЦЦА ДАЛЁКА АДЗІН АД АДНАГО.


СІНЕБАРОД, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЧАС, КАБ ПРЫВЕСЦІ СЯБЕ Ў ПАРАДАК І ЗРАБІЦЬ ШТОГАДОВЫ УЗНЁСАК У КІШЭНЮ НАШАГА МЭРА... ШТО НАГАДАЕ НАМ, ЯКІ ТЫ САПРАЎДНЫ ГРАМАДЗЯНІН.
І КАЛІ ЛАСКА, ПАКІНЬ ДОМА ЎСЕ КІНЖАЛЫ, НАЖЫ І БАЯВЫЯ СЯКЕРЫ.


А З ТАБОЮ, ДЖЭК, МЫ ПАРАЗМАЎЛЯЕМ КРЫХУ САМ-НАСАМ. ПОТЫМ ТЫ ПАКАЖАШ, ЯКІ ТЫ ПАПЕРАДЖАЛЬНЫ ГРАМАДЗЯНІН. ТЫ ДАСТАВІШ ПАВЕДАМЛЕННЕ АДНАМУ ГОСЦЮ НА ВЕЧАРЫНЦЫ.
А ЧАМУ Б ЦЯБЕ САМАМУ НЕ ВЫКОНВАЦЬ СВАЕ ЗАГАДЫ?


"МАЖЛІВА ТАМУ, ШТО Я ЎЖО ПРАПУСЦІЎ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ВЕЧАРЫНКІ. АЛЕ ЯШЧЭ БОЛЕЙ,ТАМУ ШТА ГЭТА ТОЕ, ШТО ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗРАБІЦЬ, КАЛІ ТЫ ЖАДАЕШ ЗАХАВАЦЬ СВАБОДУ."
НЕ, НЕ, НЕ! ЗАНАДТА ШМАТ ПАМЕШВАННЯЎ! СОЎСУ ТРЭБА ДАЦЬ КАРАМЕЛІЗАВАЦЦА.
ДЗЕ МАЕ КОРНУЭЛЬСКІЯ КУРЫЦЫ? ХТО ІХ УЗЯЎ?
ЦЫБУЛЯ ШАЛОТ? АЛЕ Ж ТЫ КАЗАЎ РАПАВАТАЯ!
МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ПАДАЁМ СУП?
У НАС АМАЛЬ СКОНЧЫЛАСЯ ГУСІНАЯ ПЯЧОНКА. ПАКЛАСЦІ ЯШЧЭ ЦІ...?
ЛЕПЕЙ ПАКЛАСЦІ ЯШЧЭ ШТОСЬЦІ І ПАХУТЧЭЙ. ГЭТЫ НАТОЎП ЕСЦЬ УСЁ, ШТО БАЧЫЦЬ.
ТЫ ЦІ СПАЗНЯЕШСЯ, ЦІ СПЯШАЕШСЯ! УСЁ ПАВІННА ПАДАВАЦЦА ДАКЛАДНА Ў ЧАС!


Я НАРЭШЦЕ ЗРАБІЎ ГЭТА.


ЗАКУЛІССЕ САМАЙ ВЯЛІКАЙ ПАДЗЕІ ГОДУ.


НЯМ.


ТЫ ЎХОДЗІШ У МЕНЮ?
О БОЖАЧКІ. СПАДЗЯЮСЯ, ШТО НЕ.


ВОСЬ ТЫ ДЗЕ. ВЫГЛЯДАЕШ ЦУДОЎНА.
Я ЎЖО ПАЧАЛА ДУМАЦЬ, ШТО МЯНЕ КІНУЛІ.
НІЧОГА. ТЫ Ж ЗАЎСЁДЫ ХОДЗІШ УСЮДЫ АДНА, ТАК?


ТАМУ ТЫ Б НЕ АДЧУЛА АНІЯКАЙ НЯЁМКАСЦІ, КАЛІ Б Я НАОГУЛ НЕ ПРЫЙШОЎ.
БОЖУХНА, ТЫ ЗУСІМ НЕ МАЕШ ПАЧУЦЦЯ ТАКТУ І ДАЛІКАТ-НАСЦІ?


НАПЭЎНА. ПАЙШЛІ, НАМ ТРЭБА БЫЦЬ НА ПЛЯЦОЎЦЫ ДЛЯ ТАНЦАЎ.


НАВОШТА?! ГЭТА ДРУГАЯ ЧАСТКА ТВАЁЙ СКЛАДАНАЙ СХЕМЫ, ПА ЯКОЙ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ЗЛАВІЦЬ ЗАБОЙЦУ МАЁЙ СЯСТРЫ?


МАЖЛІВА. ЗАРАЗ, БЭЛА, ПАКАЖЫ, ЯК ГЭТА РОБІЦЦА.
ТЫ РАНЕЙ НІКОЛІ НЕ ТАНЦАВАЎ?
НІКОЛІ.


КЛАДЗІ РУКІ СЮДЫ І СЮДЫ. КРЫХУ ДАЛІКАТНЕЙ, КАЛІ ЛАСКА. Я НЕ НЕЙКІ ПАДАЗРОНЫ, ЯКОГА ТРЭБА СХАПІЦЬ. ЗАРАЗ ІДЗІ ЗА МНОЙ І ПАСПРАБУЙ НЕ НАСТУПАЦЬ НА НОГІ.
ДОБРА, ДАРАГАЯ.


ПАДЫМІ ПОГЛЯД.
ТАДЫ Я НЕ ЗМАГУ БАЧЫЦЬ МАЕ НОГІ.


УСЁ РОЎНА. ВЫГЛЯДАЕ, БЫЦЦАМ БЫ ТЫ ГЛЯДЗІШ У ВЫРАЗ СУКЕНКІ.
І ШТО? НАВОШТА ТАБЕ ТАКІ ГЛЫБОКІ ВЫРАЗ, КАЛІ ТЫ НЕ ЖАДАЕШ, КАБ ЛЮДЗІ ГЛЯДЗЕЛІ?


МАЖЛІВА ЖАНЧЫНЫ НОСЯЦЬ ТАКІ ГЛЫБОКІ ВЫРАЗ, КАБ ПАДЗЯЛІЦЬ ДЖЭНТЭЛЬМЕНАЎ І САБАК. ТЫЯ, ХТО ЎСЁ ЯШЧЭ ГЛЯДЗЯЦЬ У ВОЧЫ, НАВАТ ПРЫ ТАКІХ ГРУДЗЯХ,
МАГЧЫМА МАЮЦЬ НЕКАТОРЫ ПАТЭНЦЫЯЛ.
ГАЎ.


АЙ, САЧЫ ЗА СВАІМІ НАГАМІ.
АЛЕ ТЫ ТОЛЬКІ ШТО КАЗАЛА НЕ САЧЫЦЬ ЗА НАГАМІ.
АХ, ГЭТА ТВОЙ КАВАЛЕР, ПРЫНЦЭСА?
БЕДНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА.


НЕ ТРЭБА ЛІТАРАЛЬНА САЧЫЦЬ ЗА НАГАМІ. ПРОСТА, КАЛІ ЛАСКА, НЕ ТАПЧЫСЯ ПА МАІМ.
ЗРАЗУМЕЎ. КОЛЬКІ ГЭТЫМ ТРЭБА ЗАЙМАЦЦА, ПЕРАД ТЫМ ЯК МЫ ЗМОЖАМ ПАЕСЦІ?


СПАДАР ВОЎК, ДОБРА РУХАЕЦЕСЯ!
НЕ ГЛЯДЗІ НА МЯНЕ. ТАНЧЫЦЬ БЫЛО ТВАЁЙ ІДЭЯЙ.
ВЕЛЬМІ ДРЭННАЯ ІДЭЯ. Я І НЕ ЧАКАЎ, ШТО БУДУ...
...У ЦЭНТРЫ ТАКОЙ УВАГІ.


САПРАЎДЫ ПОЙДЗЕМ ПАЯМО АБО ВЫП'ЕМ. ДАВАЙ БУДЗЕМ РАБІЦЬ ШТО ЗАЎГОДНА, АБЫ НЕ ТАНЧЫЦЬ!
ДОБРА, АЛЕ ТЫ ПРЫЙШОЎ ВЕЛЬМІ ПОЗНА. БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ЕЖЫ З'ЕЛІ.
АЛЕ НЕ ХВАЛЮЙСЯ.
Я ВЕТЭРАН У ГЭТАЙ СПРАВЕ.


І Я ПРЫСВЯЧУ ЦЯБЕ Ў ВЯЛІКУЮ ТАЯМНІЦУ. АБСЛУГА ЗАЎСЁДЫ КРАДЗЕ ЛЕПШАЕ З ДЭЛІКАТЭСАЎ ДЛЯ СЯБЕ.


ЯНЫ ТРЫМАЮЦЬ ДОБРАЕ Ў ЗАЧЫНЕНЫХ ЗАДНІХ ПАМЯШКАННЯХ. А ПОТЫМ ПАСЛЯ ВЕЧАРЫНКІ
НЯСУЦЬ ДАДОМУ.


КАЛІ ЖАДАЕШ, МОЖАМ ЗАБЕГЧЫ НА КУХНЮ І ПРЫМУСІЦЬ ГЭТЫХ ПІРАТАЎ ЗДАСЦІ ЧАСТКУ НАВАРАВАНАГА – НА АБЯЦАННЕ, ШТО МЫ ПРА НІХ НЕ РАСПАВЯДЗЁМ.


ВОСЬ ЯНО.
ШТО ЯНО?
ЗАРАЗ ТЫ ЗНАЙШЛА АПОШНЮЮ ЧАСТКУ ЗАГАДКІ, ЯКАЯ ВЕЛЬМІ НАДАКУЧЫЛА.
САПРАЎДЫ?


САПРАЎДЫ. РУЖА ЛЮБІЛА ВЕСЯЛІЦЦА! ЛЮДЗІ – ЗВЫЧАЙНЫЯ І ЧАРАЎНІКІ – УВЕСЬ ЧАС ПРЫХОДЗІЛІ І СЫХОДЗІЛІ З ЯЕ КВАТЭРЫ, НАВАТ КАЛІ ЯЕ НЕ БЫЛО. ЯНА ПАСТАВІЛА НАВАТ ЗАМОК НА ЛЯДОЎНЮ, КАБ НІЧОГА НЕ ПАКРАЛІ.


ПАКУЛЬ Я ЦЯБЕ НЕ РАЗУМЕЮ.
ГЭТА НЕ БЫЛО САПАЎДЫ ІСТОТНЫМ, АЛЕ ГЭТА БЫЎ АДЗІНЫ ЭЛЕМЕНТ ГАЛАВАЛОМКІ, ЯКІ АДСУТНІЧАЎ ДАГЭТУЛЬ. ЗАРАЗ УСЁ СКОНЧАНА.
ЖАДАЕШ ДАВЕДАЦЦА, ХТО ЗАБІЎ РУЖАНЬКУ?


ВЯДОМА!
ПУСЦІ ЧУТКУ, ТОЛЬКІ ЦІХЕНЬКА.... НЯХАЙ УСЕ, КАМУ ЦІКАВА, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ І ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ, ПАДЫМУЦЦА НА ТЭРАСУ КАРАЛЯ КОЎЛА. .. АДРАЗУ ПАСЛЯ РОЗЫГРЫШУ ЛАТЭРЭІ.


І ВЫЙГРАЎ НУМАР...




А ЯГО МІЛАСЦЬ ВЕДАЕ, ШТО ХОДЗІШ СЮДЫ ПЛАВАЦЬ, КАЛІ ЯГО НЯМА?
А ХТО ВЕДАЕ?


КАЛІ ЁН ВЕДАЕ, ТО ЁН НІКОЛІ НЕ СКАРДЗІЎСЯ.
НЕ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я ВАЗЬМУ ЦЫГАРЭТКУ?
ДУМАЮ, НЕ.


СКОНЧЫЎ СА СВАІМІ ДАРУЧЭННЯМІ, ДЖЭК?
ПРЫНЦ ДЖЭК ДЛЯ ЦЯБЕ, ПРАСТАЧЫНА.
НЕ... НЕ КАЖЫ МНЕ...
АГА... Я ВЫЙГРАЎ ГЭТУ ЛАТЭРЭЮ... А ЎСЯГО АДЗІН КВІТОК КУПІЎ.


ЦІ ГЭТА НЕ УДАР ПА ЯЙКАМ? Я ЎСЁ СВАЁ ЖЫЦЦЁ КАРЫСТАЎСЯ РОЗНЫМІ СХЕМАМІ, КАБ ЧАГОСЬЦІ ДАСЯГНУЦЬ. А ЎСЁ, ШТО МНЕ БЫЛО ТРЭБА – ПРОСТА КУПІЦЬ КВІТОК.
ШКАДА, ШТО ЎСЁ ГЭТА БЕССЭНСОЎНА.


ТАК, МЫ ЎСЕ БУДЗЕМ МАРЫЦЬ ПРА ТОЙ ДЗЕНЬ, КАЛІ ПАБ'ЕМ ВОРАГА І ВЫКІНЕМ ЯГО З НАШЫХ СТАРЫХ ЗЯМЕЛЬ... У ТЫМ ЛІКУ СТАРЫХ НОВЫХ ЗЯМЕЛЬ... АЛЕ УСЯЛЯКІ, АКРАМЯ РАМАНТЫЧНЫХ ДУРНЯЎ, ВЕДАЕ, ШТО ГЭТАГА НІКОЛІ НЕ АДБУДЗЕЦЦА.


ГАТОВЫ ПАЧЫНАЦЬ ШОЎ? ЗДАЕЦЦА, "ВЁСКА" ПРЫЙШЛА.
ПРОСТА КАЖЫ СВАЮ РЭПЛІКУ "ВАША МІЛАСЦЬ".


ВОСЬ І ЯНА – "СЦЭНА Ў ГАСЦІНАЙ", ДЗЕ РАЗУМНЫ ДЭТЭКТЫЎ УСЁ ТЛУМАЧЫЦЬ.
КАЛІ Б ГЭТА БЫЛО МАСТАЦКІМ ТВОРАМ – ТУТ АЎТАР СПЫНІЎСЯ Б І ЗАПЫТАЎСЯ Ў ЧЫТАЧОЎ, ЦІ СКЛАЛІ ЯНЫ ЎСЕ ПАДКАЗКІ.
ОХ, ПРАЦЯГВАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК.
ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ, АЛЕ КОЖНЫ КОП МАРЫЦЬ ПРА ТАКІ МОМАНТ. АЛЕ НЯШМАТ ХТО МОЖА ДАЧАКАЦЦА ТАКОГА МОМАНТУ. ПАПЕСЦІЦЕ МЯНЕ, КАЛІ ЛАСКА.


ДЖЭК, ЦІ НЕ ЗАПРОСІШ ЗЛОДЗЕЯ ДАЛУЧЫЦЦА ДА НАС?
ВЯДОМА, ВАША МІЛАСЦЬ.


ЯЕ ЗАБОЙЦА ТУТ?


ТАК. Я ПАДАЗРАВАЎ, ШТО ЗАБОЙЦА НЕ ЗМОЖА АДМОВІЦЬ СЯБЕ Ў НАВЕДВАННІ НАШАГА ШТОГАДОВАГА БАЛЮ І Я ПАПРАСІЎ ДЖЭКА ПАШУКАЦЬ ЯЕ СЯРОД ГАСЦЕЙ.
ЯЕ?
КАГО?


НАМ ТРЭБА РАБІЦЬ ГЭТА?
АБАВЯЗКОВА.


СПАДАРСТВА, ДАЗВОЛЬЦЕ ПРАДСТАВІЦЬ ВАМ ЗАБОЙЦУ РУЖАНЬКІ...





















# FABLES

ISSUE 5 NOV 2002 2.50 can 4.25 VERTIGO

BILL WILLINGHAM
LAN MEDINA
STEVE LEIALOHA

SUGGESTED FOR MATURE READERS

BY COMICS

ПАДАННІ #5 (2002)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ АЛЕНЫ ВАСІЛЬКОВАЙ



jj 02

WE REMEMBER 9-11 SEPT 11 2001

НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЎСЁ, ШТО ВЫ ГЛЯДЗІЦЕ ПА ТБ, ЖЫЦЦЁ ЗВЫЧАЙНАГА ПАЛІЦЭЙСКАГА МОЖНА АПІСАЦЬ ЯК НЕЗЛІЧОНЫЯ ГАДЗІНЫ НЕВЫНОСНА НУДНАЙ ПРАЦЫ.

"ПЕРАСТРЭЛКІ І АЎТАМАБІЛЬНЫЯ ПАГОНІ – ГЭТА ВЯЛІКАЯ РЭДКАСЦЬ. ЯНЫ СТВАРАЮЦЬ ЗАНАДТА ПАПЕР... ПА-ДРУГОЕ ... ЯК БОЛЬШАСЦЬ ЗДАГАДВАЕЦЦА – АНІВОДНЫ КОП НЕ ЖАДАЕ ПАРУШАЦЬ ЗВЫКЛЫ РАСКЛАД".



І АНІВОДНЫ СУМЛЕННЫ КОП НЕ БУДЗЕ ЗАМОЖНЫМ.

КОПЫ З ЗВЫЧАЙНЫХ ВЫХОДЗЯЦЬ НА ПЕНСІЮ ПАСЛЯ 20-30 ГАДОЎ ПРАЦЫ.




Я НА ГЭТАЙ ПРАЦЫ ЎЖО ДЗВЕСЦЕ ГОД... З ПЕРШЫХ ДЗЁН СПРОШЧАНАЙ І ЎСЕАГУЛЬНАЙ АМНІСТЫІ КАЗАЧНЫХ ІСТОТ У ВЫГНАННІ.

Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ У ПЕРАСТРЭЛКЕ... І З ПІСТАЛЕТУ Ў ПАДОБНЫХ АБСТАВІНАХ НЕ СТРАЛЯЎ.

Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ У АЎТАМАБІЛЬНАЙ ПАГОНЕ... Я НАВАТ КІРАВАЦЬ НЕ НАВУЧЫЎСЯ.



І АБСТАВІНЫ, КАЛІ Я ПЕРАСЛЕДВАЎ ЗЛАЧЫНЦА ПЕШШУ, МОЖНА ПЕРАЛІЧЫЦЬ НА ПАЛЬЦАХ АДНОЙ РУКІ.

**FABLES** 5. November, 2002. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to FABLES, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. Subscriptions to this title are offered only to readers who attest they are 18 years of age or older, or with written parental approval to readers under 18 years of age.

Printed in Canada.

DC Comics. A division of Warner Bros. - An AOL Time Warner Company

# Глава пятая:

ЗНАКАМІТАЯ СЦЭНА Ў ГАСЦІНАЙ.

У ЯКОЙ У КАНЦЫ ЎСЁ ДАКЛАДНА РАСКЛАДВАЕЦЦА, АДНАК НЕ ЎСЕ ЗАДАВОЛЕНЫЯ ВЫНІКАМ.

ТАМУ Я НЕ МАГУ КАЗАЦЬ, ШТО Ў МЯНЕ БЫЛО ШТОСЬЦІ ПАДОБНАЕ ДА ЦІКАВАЙ КАР'ЕРЫ... ЦІ НАВАТ ДА ВЕЛЬМІ ЗАХАПЛЯЛЬНАЙ...

АЛЕ АДНОЙЧЫ І ТОЛЬКІ АДНОЙЧЫ БЫВАЮЦЬ УЗНАГАРОДЫ...

УСЯЛЯКІ, ХТО ПРЫКІДВАЎСЯ ДЭТЭКТЫВАМ ВЕЛЬМІ ЧАКАЎ ДНЯ, КАЛІ ЁН ЗМОЖА ПРАВЕСЦІ ЗНАКАМІТУЮ СЦЭНУ Ў ГАСЦІНАЙ.

ШТО ГЭТА, ХАЛЕРА ДЗЯРЫ, ТАКОЕ?!

ГЭТА МОМАНТ, КАЛІ Я БУДУ РАСПАВЯДАЦЬ, ХТО, ШТО І ЯК ЗРАБІЎ... І ШТО САМАЕ ЦІКАВАЕ – ЯК Я ЎСЁ ГЭТА ВЫСВЕТЛІЎ.

СЦЭНАР
БІЛ УІЛІНГХЭМ

АЛОВАК
ЛЭН МЭДЗІНА

ТУШ
СЦІВ ЛЭЙАЛОА

ЛЭТЭРІНГ
ТОД КЛАЙН

КОЛАР
ШЭРЫЛІН ВАН ВАЛКЕНБЕРГ

СЕПАРЫРАВАННЕ
ЗАЙЛАНОЛ

ВОКЛАДКА
ДЖЭЙМС ДЖЫН

АС. РЭДАКТАРА
МАРЫЯ ХОХНЭР

РЭДАКТАР
ШЭЛІ БОНД

ПАДАННІ
СТВОРАНЫЯ
Б. УІЛІНГХЭМАМ


АЛЕ НАМ УСІМ ТРЭБА СПАЧАТКУ ПРАЙСЦІ Ў ГАСЦІНУЮ?
НЕ, МУХАЛОЎ, РЭАЛЬНАЕ МЕСЦА ДЗЕЯННЯ НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ. ПОЙДЗЕ І ТУТ.
ТАДЫ СПАДАР ВОЎК РАСПАВЯДЗЕ СВАЮ ГІСТОРЫЮ. НЕ МАГУ ТРЫВАЦЬ НЯВЫЗНАЧАНАСЦІ.


КАЛІ ЛОРД-МЭР ФЭЙБЛТАЎНА ЗАГАДВАЕ, Я МАГУ ТОЛЬКІ ПАДПАРАДКАВАЦЦА.
МАЕ ПАДАЗРОНЫ ПРА САПРАЎДНУЮ ПРЫРОДУ ГЭТАЙ СПРАВЫ З'ЯВІЛІЯ Ў ТОЙ САМЫ МОМАНТ, КАЛІ Я ТОЛЬКІ ДАВЕДАЎСЯ ПРА ЯЕ.


ЧАМУ? ЧАМУ ЯМУ ТРЭБА БЫЛО ПЕРАКАНАЦЬ МЯНЕ Ў ГЭТАЙ ГІСТОРЫІ? БЫЦЦАМ ЁН ВЫЯВІЎ ЗЛАЧЫНСТВА І АДРАЗУ ПАБЕГ, КАБ ПАВЕДАМІЦЬ ПРА ГЭТА?
І ЯК ДЖЭК, ЁН ПЕРАСТАРАЎСЯ.


Я Ж КАЗАЛА, ШТО ТРЭБА БЫЦЬ БОЛЕЙ ДАКЛАДНЫМ!
АЛЕ...


МЫ ЗНАХОДЗІМСЯ Ў ВЕРХНЯЙ ЗАХОДНЯЙ ЧАСТЦЫ, ДАЛЁКА АД КВАТЭРЫ РУЖЫ Ў ВІЛЭДЖ. ДЖЭК БЫЎ ВЫМУШАНЫ ЎЗЯЦЬ ТАКСІ, КАБ ПАВЕДАМІЦЬ ПРА ГЭТАК ЗВАНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА.
ДЖЭК ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ВЕЛЬМІ ДОБРЫМ ФІЗІЧНЫМ СТАНЕ.


ПРОСТАЯ ПРАБЕЖКА АД ТАКСІ ДА МАЙГО ОФІСУ НЕ ПАВІННА БЫЛА ВЫКЛІКАЦЬ ДЫХАВІЦУ.
АЛЕ ЁН ПРЫЙШОЎ СТОМЛЕНЫ І ЗАДЫХАНЫ.
ФУХ... ФУХ...
АДБЫЛОСЯ ШТОСЬЦІ ЖАХЛІВАЕ!


ВЫ ЗАСТАВАЙЦЕСЯ ТУТ.
ТАМУ, ВЕДАЮЧЫ, ШТО НЕ ТРЭБА ВЕРЫЦЬ ТАМУ, ШТО Я ПАБАЧУ, Я АГЛЕДЗЕЎ КВАТЭРУ РУЖАНЬКІ.
ПРАЗ ПАРУ ХВІЛІН БЫЛО ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ГЭТА ІНСЦЭНАВАНАЕ МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА... ВЕЛЬМІ ДРЭННА ІНСЦЭНАВАНАЕ.

КРОЎ БЫЛА ПРАЛІТА ПАЎСЮДЫ – НА КОЖНАЙ ПАВЕРХНІ Ў АГУЛЬНЫМ ПАКОІ РУЖАНЬКІ.
НІХТО Б НЕ ЗМОГ ПРАЙСЦІ ПА ПАКОІ ПЕРАД І ПАСЛЯ ЗЛАЧЫНСТВА, НЕ ПАКІНУЎШЫ КУЧУ СЛЯДОЎ.
АДНАК ДЖЭК КАЗАЎ, ШТО АГЛЕДЗЕЎ УСЮ КВАТЭРУ, ШУКАЮЧЫ РУЖАНЬКУ.
ПАГЛЯДЗІ Ў СПАЛЬНІ, МОЖА ЯНА ТАМ!
Я ЎЖО ГЛЯДЗЕЎ. ЯЕ ТАМ НЯМА.
ЦІ Я НЕ МОГ ПРОСТА АБЫЙСЦІ, ЯК ТЫ, ЦІХЕНЬКА КРЫВАВЫЯ ПЛЯМЫ, КАБ ЗАХАВАЦЬ УЛІКІ?
ВЯДОМА. ГЭТА ВЫДАТНА СЫХОДЗІЦЦА.
НІЯК, ДЖЭК. НІХТО НЕ БУДЗЕ ХВАЛЯВАЦЦА ПРА ЗАХОЎВАННЕ ДОКАЗАЎ, ВЕДАЮЧЫ, ШТО ЯГО КАХАНАЯ ДЗЕСЬЦІ ЛЯЖЫЦЬ І ПАМІРАЕ АД СТРАТЫ КРЫВІ.
АЛЕ ГЭТА БЫЛА ТОЛЬКІ АДНА З ТВАІХ АМАТАРСКІХ ПАМЫЛАК.
У НАСТУПНЫ РАЗ, КАЛІ БУДЗЕЦЕ ІНСЦЭНАВАЦЬ ЗАБОЙСТВА... ПЕРАКУЛЬВАЙЦЕ РЭЧЫ ПА-САПРАЎДНАМУ...
... А НЕ КЛАДЗІЦЕ АКУРАТНА, ДЗЕ ВЫ ЖАДАЕЦЕ, КАБ ЯНЫ ЛЯЖАЛІ.
ТАРШЭР БЫЎ ПЕРАКУЛЕНЫ, АЛЕ ЛЯМПАЧКІ ЗАСТАЛІСЯ НЕКРАНУТЫМІ.
ПОПЕЛЬНІЦА РУЖЫ, ЗРОБЛЕНАЯ УРУЧНУЮ, ПАВІННА БЫЛА РАЗЛЯЦЕЦЦА НА КАВАЛАЧКІ. АЛЕ НАВАТ НЕ ТРЭСНУЛА.
РУЖА, НАПЭЎНА, ЖАДАЛА ЗАХАВАЦЬ СВОЙ МУЗЫКАЛЬНЫ ЦЭНТР, ТАМУ ШТО ЁН ЦУДАМ ПАЗБЕГ ПЛЯМ КРЫВІ, АДНАК КРОЎ БЫЛА ПАРАСПЫРСКВАНА КАЛЯ ЯГО.
ЯНА ТАКСАМА ЖАДАЛА ЗАХАВАЦЬ ЛЕПШАЕ З СВАЁЙ МУЗЫКАЛЬНАЙ КАЛЕКЦЫІ.
ДЫСКІ, РАСКІДАНЫЯ ПА ЎСЯМУ ПОЛУ СТАЛІ ВЫДАТНАЙ ДЭКАРАЦЫЯЙ ДЛЯ ТАГО, КАБ МАГЧЫМА БЫЛО ВЫКАЗАЦЬ ЗДАГАДКУ, ШТО ГЭТА СЛЯДЫ ЖОРСТКАЙ БАРАЦЬБЫ.
АЛЕ ЯНА МАГЛА АХВЯРАВАЦЬ ТОЛЬКІ ТЫЯ ДЫСКІ, ЯКІЯ НЕ ВЕЛЬМІ ЛЮБІЛА... ТЫЯ, ШТО ЗАХОЎВАЛІСЯ НА ЗАДНІМ РАДУ.
ДЫСКІ, ЯКІЯ ЯНА СЛУХАЛА ЧАСЦЕЙ, СТАЯЛІ НА ПЕРШЫМ РАДУ І БЫЛІ НЕКРАНУТЫЯ.


БАЧЫШ? Я Ж КАЗАЎ ТАБЕ, ТРЭБА БЫЛО ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ І ЛЮБІМЫЯ ДЫСКІ.
ПРЫКРЫЙ ЗЯПУ.


ВЫ ПАКАЗАЛІ, ШТО Ў БУДУЧЫНІ ЗБІРАЕЦЕСЯ КАРЫСТАЦЦА ГЭТЫМІ РЭЧАМІ.
АЛЕ КАЛІ Б РУЖА ЗМАГАЛАСЯ ЗА СВАЁ ЖЫЦЦЁ, ЯЕ Б НЕ ХВАЛЯВАЛІ ТАКІЯ ДРОБЯЗІ.


СТАРЫ ТОСТЭР ВЫ НЕ ПАШКАДАВАЛІ, КАБ ДАДАЦЬ ГАРМІДАРУ БОЛЕЙ ХАОСА.
АЛЕ ЯКІ Б ТАМ ГАРМІДАР НІ БЫЎ, КУХНЯ ЗАСТАЛАСЯ НЕКРАНУТАЙ БАРАЦЬБОЙ.
І ЯК ТОСТЭР З КУХНІ АПЫНУЎСЯ Ў АГУЛЬНЫМ ПАКОІ?


ХОПІЦЬ, ВОЎК. МНЕ ДАСТАТКОВА ПРА МУЗЫКАЛЬНЫЯ ЦЭНТРЫ І ТОСТЭРЫ.
ТЫ ЗДЗІВІЎ НАС УСІХ, ЯК ЛЁГКА ТЫ ДАЙШОЎ ДА ПРАЎДЫ.


АЛЕ ВОСЬ ШТО Я ЖАДАЮ СКАЗАЦЬ: ЯК ТЫ МОГ ПРЫКІДВАЦЦА, ШТО ВЯДЗЕШ ДАЗНАННЕ, КАЛІ ВЕДАЎ, ШТО РУЖА ЖЫВАЯ?!
ПАЧАКАЙ, ТЫГРЫЦА, ПРЫБЯРЫ КІПЦЮРЫ.


ЯК ТЫ МНЕ МОГ ДАЗВОЛІЦЬ ДНЯМІ... ТЫДНЯМІ...
...ПРАЦЯГВАЦЬ ДУМАЦЬ, ШТО МАЯ СЯСТРА ПАМЁРЛА, КАЛІ ТЫ ЎВЕСЬ ЧАС ВЕДАЎ, ШТО ЯНА НЕ ПАМЁРЛА?!


БУДЗЬ УВАЖЛІВЕЙ. ДАКЛАДНА Я ВЕДАЎ, ШТО РУЖА ПРЫЙМАЛА ЎДЗЕЛ У ІНСЦЭНАВАННІ МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА.
Я НЕ ВЕДАЎ, ШТО ЯНА НЕ ПАМЁРЛА. НАСАМРЭЧ Я МЕЎ ДОКАЗЫ, ШТО ЯНА ПАМЁРЛА.
АЛЕ ТЫ КАЗАЎ...


НА МЕСЦЫ ЗЛАЧЫНСТВА БЫЛО БОЛЕЙ КРЫВІ, ЧЫМ ЧАЛАВЕК МОЖА ЗГУБІЦЬ І ЗАСТАЦЦА ЖЫВЫМ. І Я ВЕДАЎ, ШТО ЎСЯ ЯНА НАЛЕЖЫЦЬ РУЖАНЬКЕ.
ДАВЕДАЦЦА, ШТО МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА БЫЛО ІНСЦЭНАВАНА І ЗНАЙСЦІ АДКАЗ НА ЗАГАДКУ – ДЗВЕ ВЯЛІКІХ РОЗНІЦЫ.


БЫЛО ВЕЛЬМІ ШМАТ МАГЧЫМАСЦЯЎ, ЯКІЯ МАГЛІ ПАДЫЙСЦІ ДА ДАДЗЕНЫХ АБСТАВІН.
РУЖАНЬКА МАГЛА ПЛАНАВАЦЬ, КАБ ЯЕ САМАГУБСТВА ВЫГЛЯДАЛА ЯК ЗАБОЙСТВА.


... ЦІ ЯНА САМА ЎДЗЕЛЬНІЧАЛА Ў ПАДСТАВЕ, КАБ СЫМІТАВАЦЬ УЛАСНАЕ ЗАБОЙСТВА...
... НЕ РАЗУМЕЮЧЫ, ШТО ЯЕ САЎДЗЕЛЬНІК ВЫРАШЎ ПЕРАТВАРЫЦЬ ІНСЦЭНІРОЎКУ Ў САПРАЎДНАЕ МЕСЦА ЗАБОЙСТВА.


АЛЕ ГЭТА НЕ БЫЛА АНІВОДНАЯ З ГЭТЫХ ВЕРСІЙ. ТАКАЯ ВЯЛІКАЯ КОЛЬКАСЦЬ КРЫВІ БЫЛА ТОЮ ЧАСТКАЙ ІХ ПЛАНА, ДЗЕ ДЖЭК І РУЖА МЯНЕ АБДУРЫЛІ... НА НЕКАТОРЫ ЧАС.
БЭЛА, ГЭТА ТЫ МНЕ ДАЛА АПОШНЮЮ ПАДКАЗКУ...
ТЫ МНЕ ДАПАМАГЛА З АПОШНІМІ, НАЙБОЛЬШ АБРЫДЛЫМІ ПАЗЛАМІ.
ЯК?


«РАНЕЙ, СЁННЯ ЎВЕЧАРЫ, МЫ ТАНЬЧЫЛІ НА БАЛЕ».
ПОЙДЗЕМ, ПАЯДЗІМ.
ЗАНАДТА ПОЗНА. ДОБРАЯ ЕЖА ЎЖО СКОНЧЫЛАСЯ.


"ТЫ ШТОСЬЦІ КАЗАЛА ПРА ЗАХОЎВАННЕ ЕЖЫ, КАБ ГОСЦІ НА ВЕЧАРЫНЦЫ ДА ЯЕ НЕ ДАБРАЛІСЯ."
ТАДЫ МЫ МОЖАМ ЗАБЕГЧЫ НА КУХНЮ.
АБСЛУГОЎВАЮЧЫ ПЕРСАНАЛ ЗАЎСЁДЫ ТРЫМАЕ ДОБРУЮ ЕЖУ ПАД ЗАМКОМ У ЗАДНІХ ПАМЯШКАННЯХ.


ВОСЬ ТАК ЯНЫ ГЭТА І ЗРАБІЛІ. ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК МОЖА ЗДАВАЦЬ КРОЎ РАЗ НА ШЭСЦЬ ТЫДНЯЎ І НЕ АДЧУВАЦЬ НІЯКІХ НАСТУПСТВАЎ.


"НАПЭЎНА ЯНЫ ДОЎГА ПЛАНАВАЛІ ГЭТУЮ ДУРНУЮ СХЕМУ...
"... БО РУЖАНЬЦЫ БЫЛА ПАТРЭБНА ВЯЛІКАЯ КОЛЬКАСЦЬ ЧАСУ ДЛЯ ЗБОРУ КРЫВІ У АБ'ЁМЕ 2,5 – 3 ЛІТРА, КАБ ПЕРАКАНАЦЬ НАС, ШТО ЯНА МЁРТВАЯ.
COTTON


ЯНЫ ЗАХОЎВАЛІ ЯЕ КРОЎ У МАРАЗІЛЬНІКУ ТАКІМ ЧЫНАМ, КАБ КАЛІ ЯНА СПАТРЭБІЦЦА, ТО ЯНА Б БЫЛА СВЕЖАЯ.


АЛЕ Ў ІХ ЗАЎСЁДЫ БЫЛО ШМАТ НАРОДУ, ТАМУ ІМ БЫЎ ПАТРЭБНЫ ТАКІ СПОСАБ, КАБ НЕ ДАЗВОЛІЦЬ ГАСЦЯМ ЗНАЙСЦІ ПАКЕТЫ З КРЫВЁЮ.
BOSTON STRAIGHT


ТАМУ ІМ ТРЭБА БЫЛО ТРЫМАЦЬ МАРАЗІЛЬНІК ЗАЧЫНЕНЫМ.
BULL


ГЭТА ТЛУМАЧЫЦЬ, ЧАМУ Я ЗНАЙШОЎ НАВЯСНЫ ЗАМОК, ЯКІ ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА ДЗІРАК, ЯКІЯ БЫЛІ ПРАСВЕРЛЕНЫЯ Ў ДЗВЕРЦЫ МАРАЗІЛЬНІКУ.


МАЖЛІВА ГЭТА І ФАЙНА, АЛЕ Я НЕ РАЗУМЕЮ, ЧАМУ ТЫ МНЕ НІЧОГА НЕ РАСПАВЯДАЎ.
Я МУСІЎ ТАК РАБІЦЬ. ТЫ БЫЛА Ў ЛІКУ ПАДАЗРОНЫХ.


ПАДАЗРОНЫХ? ЯК Я МАГЛА БЫЦЬ У ЛІКУ ПАДАЗРОНЫХ? ЯК МЯНЕ МОЖНА БЫЛО ПАДАЗРАВАЦЬ У ЗАБОЙСТВЕ, ЯКОГА НЕ БЫЛО?
НАВАТ РУЖАНЬКА НЕ БУДЗЕ ІНСЦЭНАВАЦЬ СВАЮ СМЕРЦЬ БЕЗ АСАБЛІВЫХ ПРЫЧЫН.


З ПЕРШАГА ДНЯ РАСЛЕДВАННЯ Я НЕ ШУКАЎ ЯЕ ЗАБОЙЦУ. Я ШУКАЎ ТАГО, ХТО ТАК ЯЕ МОГ СПАЛОХАЦЬ... ХТО ПРЫМУСІЎ ЯЕ ЗРАБІЦЬ ГЭТА.
ПАКУЛЬ Я НЕ ВЫСВЕТЛІЎ ГЭТА, Я НЕ МОГ РЫЗЫКАВАЦЬ І РАСПАВЕСЬЦІ, ШТО ЯНА ЖЫВАЯ.


КАГО ЯНА БАЯЛАСЯ?
РУЖА, МО АДКАЖАШ ЗА НАС?
СІНЕБАРОДА.
ЧАМУ ЯГО?


ВОСЬ ЧАМУ.
ПАМЯТАЕШ ГЭТА, БЭЛА? ГЭТА ШЛЮБНЫ КАНТРАКТ, ЯКІ ТВАЯ СЯСТРА ПАДПІСАЛА Ў АБМЕН НА ВЯЛІКУЮ СУМУ ГРОШАЙ.


ВОСЬ КОРАТКА ШТО ЗДАРЫЛАСЯ І ЧАМУ.
БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ З ГЭТАГА Я ДАКАЗАЦЬ НЕ МАГУ, АЛЕ ЎСЁ ГЭТА ПАЦВЯРДЖАЕЦЦА НЕКАТОРЫМІ ДОКАЗАМІ.


"БОЛЬШ ГОД ТАМУ НАЗАД ДЖЭК ПРЫДУМАЎ АДНУ З ШМАТЛІКІХ СХЕМ "ЯК ХУТКА РАЗБАГАЦЕЦЬ". НЕ ПАВЕРЫЦЕ, АЛЕ ГЭТА БЫЛА ІДЭЯ ЗАРОБКУ ПРАЗ ГЭТЫЯ ІНТЭРНЭТ-КАМПАНІІ."
"ДЖЭК НЕ БЫЎ БЫ ДЖЭКАМ, КАЛІ Б НЕ ПАСПРАБАВАЎ УСКОЧЫЦЬ У ЦЯГНІК ДА ПЕРАМОЖЦАЎ, ХАЦЯ ТОЙ ДАЎНО ЎЖО ПРАЕХАЎ."
"ДЛЯ СТАРТУ ІНТЭРНЭТ-КАМПАНІІ ПАТРЭБНЫ ГРОШЫ."
"І ШТО Ж ЗРАБІЎ ДЖЭК?" ЁН ПАЗЫЧЫЎ ГРОШАЙ У СВАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЫ."
"ГЭТА ВЕРНЯК, САЛОДКАЕ МЕДЗВЕДЗЯНЯТКА. І КАЛІ Я РАЗБАГАЦЕЮ, Я ЗВЯРНУ ТАБЕ ГРОШЫ. А ТЫ ЗМОЖАШ ЯМУ ЎСЁ ЗВЯРНУЦЬ."
"ДЖЭК, Я НЕ ВЕДАЮ..."
"КАБ САБРАЦЬ НЕАБХОДНЫЯ ГРОШЫ ДЖЭКУ, ЯНЫ МОЦНА ПАСВАРЫЛІСЯ НА ПУБЛІЦЫ І РАЗЫШЛІСЯ. ПАСЛЯ ГЭТАГА РУЖА ПАГАДЗІЛАСЯ ВЫЙСЦІ ЗАМУЖ ЗА СІНЕБАРОДА, ЯКІ ЎЖО ДАЎНО НА ЯЕ ГЛЯДЗЕЎ."


"АЛЕ Ў ЯЕ БЫЛІ ЎМОВЫ. ЯНА Б ЖАДАЛА АТРЫМАЦЬ НАПЕРАД ВЯЛІКУЮ СУМУ ВЫКУПУ, А ЗМОВІНЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ТРЫМАЦЦА Ў ТАЯМНІЦЫ ГОД."


ТАМУ ЗАСТАВАЛАСЯ ДАСТАТКОВА ЧАСУ, КАБ ДЖЭК МОГ ЗАРАБІЦЬ СВАЕ ГРОШЫ, А ПОТЫМ РУЖА ВЯРНЕ ПАЗЫКУ СІНЕБАРОДУ... І З НЕЗАДАВАЛЬНЕННЕМ ПАРВЕ ТАЕМНЫЯ ЗМОВІНЫ.
НАЖАЛЬ, ДЖЭК ЗГУБІЎ УСЕ ГРОШЫ Ў ТОЙ ЧОРНАЙ ДЗІРЫ, ЯК І ЎСЕ АСТАТНІЯ, ЗГУБІЎШЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ Ў ІНТЭРНЕЦЕ.


ТАМУ КАЛІ ГОД ПАЧАЎ ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА КАНЦА... ДОБРА РАЗУМЕЮЧЫ, ШТО ТАКІ ЧАЛАВЕК ЯК СІНЕБАРОД НЕ ПРАБАЧЫЦЬ ПАЗЫКУ ЦІ ТАКІ АМАРАЛЬНЫ МЕТАД, ПРЫ ДАПАМОЗЕ ЯКОГА ЯНЫ ВЫЖАЛІ З ЯГО ГРОШЫ... ДЖЭК І РУЖА ПРЫДУМАЛІ ПЛАН, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ВЯСЕЛЛЯ.


ІМІТУЮЧЫ ЎЛАСНУЮ СМЕРЦЬ? ГЭТА ТАКІ ДОЎБАНЫ ЖАРТ, РУЖА?
І ЯК ГЭТА МАГЛО СПРАЦАВАЦЬ?
НАМ БЫЎ ПАТРЭБНЫ ЧАС... КАБ ЗНАЙСЦІ ІНШЫ СПОСАБ.
УЛЕЗЦІ Ў ЯШЧЭ БОЛЬШЫЯ НЕПРЫЕМНАСЦІ, У ЯКІХ ВЫ БЫЛІ СПАЧАТКУ.


НІ РУЖА, НІ ДЖЭК НІКОЛІ НЕ МЕЛІ ДАСТАТКОВА РОЗУМУ. РАЗАМ ЯНЫ НЕ МАГЛІ НЕ ДАСЯГНУЦЬ НОВАГА ЎРОЗНЯ ГЛУПСТВА.


АХ ТЫ ВЯСКОВЫ ВЫБЛЯДАК! КАЛІ Я ТАКІ ГЛУПЫ, А ТЫ ТАКІ РАЗУМНЫ, ТО ЯК У МЯНЕ ЗАРАЗ АПЫНУЛІСЯ ЎСЕ ТВАЕ ТЫТУЛЫ І ЗЕМЛІ, ШТО РАНЕЙ БЫЛІ Ў ЦЯБЕ?
А АДКУЛЬ УЗЯЎСЯ ВЫРАЗ "ДУРНЯМ ШАНЦУЕ"? ЯК ДУМАЕШ?
ХОПІЦЬ! СПЫНІЦЕ ГЭТА, УСЕ!


КЛЯНУСЯ БОГАМ, ЦІ ТУТ ЗАРАЗ БУДЗЕ ПАРАДАК АЛЬБО ПАЛЯЦЯЦЬ ГАЛОВЫ!


СПАДАР ВОЎК, ЦІ ЁСЦЬ ВАМ ШТО РАСПАВЕСЦІ ЯШЧЭ?
НЕ. Я ЎЖО ЎСЁ РАСПАВЁЎ.
ТАДЫ ШТО НАМ ЗАРАЗ РАБІЦЬ?


ХТО ВЕДАЕ? СВАЮ ПРАЦУ Я ВЫКАНАЎ. ВЫСВЕТЛІЎ УСЁ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ. ЗАРАЗ ВАМ І СНЕЖЦЫ ТРЭБА ВЫРАШЫЦЬ, ШТО РАБІЦЬ ДАЛЕЙ.
АЛЕ Ў МЯНЕ ЁСЦЬ НЕКАТОРЫЯ ПРАПАНОВЫ, КАЛІ ВЫ ЗГОДНЫЯ ВЫСЛУХАЦЬ ІХ... ТЭ-А-ТЭТ.


ТУТ Я ПАЦЯРПЕЛЫ БОК. МЯНЕ АШУКАЛІ З ГРАШЫМА І НЯВЕСТАЙ. Я АТРЫМАЮ АД ІХ СВАЮ САТЫСФАКЦЫЮ. ЯГО КРОЎ НА МАІМ КЛІНКУ, ЯЕ РУКУ Ў ШЛЮБЕ... ЯК ПА ДАМОВЕ.
І МНЕ ТАКСАМА ПАТРЭБНЫ МАЕ ГРОШЫ.


ВЫ ПАВІННЫ ВЫПЛАЦІЦЬ МНЕ МАЕ МІЛЬЁНЫ, ЯКІЯ Я ЗАРАБІЎ У ЛАТЭРЭІ.


МЫ ЎСЁ ГЭТА ВЫРАШЫМ ПАЗНЕЙ. ІДЗІЦЕ ДАДОМУ І ЗАСТАВАЙЦЕСЯ ТАМ.


МЭР, ШЭРЫФ І Я ПРАВЯДЗЕМ СУСТРЭЧУ, КАБ ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ... І ПАКЛІЧАМ ВАС, КАЛІ ВЫ БУДЗЕЦЕ ПАТРЭБНЫЯ. ТАМУ НЕ БЛУКАЙЦЕ ВАКОЛ.


НА НАСТУП-НЫ ДЗЕНЬ...




ZZZZ


ZZZZ


БОЗЛІ, МО НЕ БУДЗЕШ СУЦЬ СВОЙ НОС, КУДЫ НЕ ТРЭБА І ПРЫСЯДЗЕШ?


ПРАБАЧ, БЭЛА, АЛЕ Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ У ТВАЁЙ КВАТЭРЫ РАНЕЙ.
ТЫ ДОБРА ЎЛАДКАВАЛАСЯ ТУТ. ТУТ ПРЫЕМНА І ПРАСТОРНА. УСЯ МАЯ КВАТЭРА ЗМЯСЦІЛАСЯ Ў ТВАЁЙ ВАННЕ.
Я ШМАТ ПРАЦАВАЛА, КАБ ГЭТА АТРЫМАЦЬ. КВАТЭРА – ГЭТА АДНА З НЕШМАТЛІКІХ ПЕРАВАГ КІРАЎНІЦТВА ГЭТАЙ ПРАКЛЯТАЙ КАЗАЧНАЙ СУПОЛЬНАСЦЮ.
КАЛІ ЛАСКА, ПРЫСЯДЗЬ, КАБ МЫ МАГЛІ СКОНЧЫЦЬ.
А ШТО ЯШЧЭ ЗАСТАЛОСЯ ВЫРАШЫЦЬ? ТЫ ЎСЁ ТАК ПРЫДУМАЛА, ШТО ЎСЕ ЗАСТАНУЦЦА ЗАДАВОЛЕНЫМІ.


ТАК, АЛЕ ЎСЕ НЯГОДЫ РАЗМЕРКАВАНЫ ТАК, НАКОЛЬКІ ГЭТА МАГЧЫМА.
І КАРОЛЬ КОЎЛ ГЭТА ПАДТРЫМАЕ?
ПРАЦА КАРАЛЯ КОЎЛА – ВЕТЛІВЫ ПРЫЁМ І КІРАВАННЕ ПАЛІТЫКАЙ. МАЯ Ж ПРАЦА – ВЫРАШАЦЬ БРУДНЫЯ ПРАБЛЕМЫ.


ЁН ПАДТРЫМАЕ ЎСЕ МАЕ РАШЭННІ.
ПАСЛЯ ГЭТАГА НІХТО НЕ БУДЗЕ ЗАДАВОЛЕНЫ ТАБОЙ.


ВОЙ, ХАЛЕРА, ЯК ЖАХЛІВА. НЕЯК ПЕРАЖЫВУ.
І КАЛІ ТЫ ТАК ПАЧАЛА ЛАЯЦЦА?


ЗАРАЗ ПАЙШЛІ ЗРОБІМ ГЭТА. ПРЫВЯДЗІ ІХ ДА МЯНЕ Ў ГЭТЫМ ПАРАДКУ, А Я ЗАЙМУСЯ КРЫВАПУСКАННЕМ.
І НЕ ПАЧЫНАЙ ПАЛІЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ ВЫЙДЗЕШ АДСЮЛЬ!


ВОСЬ МЫ ІЗНОЎ ТУТ, МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ. ІЗНОЎ ЗА ГЭТЫМ СТОЛІКАМ, У ТЫМ МЕСЦЫ, ДЗЕ МЫ РАСПРАЦАВАЛІ ПЛАН, ЯКІ ІЗНОЎ ЗРАБІЎ МЯНЕ КАЗАЧНА БАГАТЫМ. МОЖНА КАЗАЦЬ, ПРАЙШЛІ КРУГ.
МАЕ ГРОШЫ Ў ЦЯБЕ?
ТРЫМАЙ.


НЕ ТРЭБА ТОЛЬКІ МАРНАВАЦЬ УСЁ ЗА АДЗІН РАЗ, ДАРАГУША.
ДЗЕ ЎСЁ АСТАТНЯЕ?
ГЭТА ЎСЁ... ВЯДОМА МІНУС РАНЕЙ УЗГОДНЕНЫЯ ЗБОРЫ І ВЫДАТКІ.


ШТО ЗА БЕССАРОМНАЯ ЛУХТА?
ЛАТЭРЭЯ ПРЫНЯСЛА МІЛЬЁНЫ, А ТУТ ЛЕДЗЬ 50 ТЫСЧ НАБЯРЭЦЦА.
МЕНЕЙ. ДВАЦЦАЦЬ ТЫСЯЧ. ТРЭБА БЫЛО БОЛЕЙ УВАЖЛІВА ЧЫТАЦЬ НАШУ ДАМОВУ, ПЕРАД ТЫМ ЯК ПАДПІСВАЦЬ.
ЯНА ДАЗВАЛЯЕ МНЕ УТРЫМЛІВАЦЬ УСЕ РАЗУМНЫЯ ВЫДАТКІ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ТЫ АТРЫМАЕШ СВАЮ ЧАСТКУ... А Я АДЗІНАЯ, ХТО МОЖА ВЫРАШАЦЬ, ШТО ГЭТА – "РАЗУМНЫЯ ВЫДАТКІ"!


ГРОШЫ, ЯКІЯ МЫ САБРАЛІ, ПАТРЭБНЫЯ ДЛЯ ВЫКУПУ СІНЕБАРОДУ І ДЛЯ ПАКРЫЦЦЯ КОШТУ РАССЛЕДВАННЯ. ТАБЕ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО Я АДДАЛА РЭШТКІ!
АЛЕ Я НЕ МАЮ ДА ГЭТАГА НІЯКАГА ДАЧЫНЕННЯ!


ЯКІ ЖАЛЬ, ТАБЕ НЕ ТРЭБА БЫЛО СПАЦЬ З МАЁЙ СЯСТРОЙ.
НА ТВАЁМ МЕСЦЫ Я Б НАБЫЛА ТЫТУЛ У ДЖЭКА. Я ДУМАЮ, ЯГО МОЖНА НАБЫЦЬ ВЕЛЬМІ ТАННА.
А ТЫ НЕ ЗМОЖАШ ПРАЦЯГНУЦЬ ЖЫЦЬ ЗВЫЧАЙНЫМ ПРАСТАЛЮДЗІНАМ.
ПАКУЛЬ, КАХАНЫ. ЗАПЛАЦІШ ПА РАХУНКУ?


ДЗЯКУЙ, СПАДАР СІНЕБАРОД, ШТО ПРЫЙШЛІ ТАК ХУТКА.
ВАШ РУЧНЫ ВОЎК РАСТЛУМАЧЫЎ МНЕ, ШТО Ў МЯНЕ НЯМА ВЫБАРУ.


ГЭТА АМЕРЫКА, ДЗЕ ВА ЎСІХ ЁСЦЬ СВАБОДА ВЫБАРУ.
НАПРЫКЛАД, У ГЭТЫМ КЕЙСЕ ЛЯЖЫЦЬ УСЯ СУМА, ЯКУЮ ВЫ АДДАЛІ МАЁЙ СЯСТРЭ... НАЯЎНЫМІ.


КАЛІ ВЫ ВЫБІРАЕЦЕ ЯГО... ЯК ВАШУ АДЗІНУЮ АПЛАТУ ЗА ЎСЕ НЕПРЫЕМНАСЦІ... ТАДЫ ЎСЁ МОЖА СКОНЧЫЦЦА ДОБРА.
АЛЕ ЎСЁ ЯШЧЭ ЗАСТАЕЦЦА ПЫТАННЕ ВЯСЕЛЛЯ.


ЗДЫМАЕЦЦА.
АЛЕ Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ДАМОВА!
ТАК, ДАМОВА, ЯКУЮ ВЫ ПАРУШЫЛІ.


ВЫ АБЯЦАЛІ Ў ЯКАСЦІ АДНОЙ З УМОЎ ВАШАГА ПАГАДНЕННЯ З МАЁЙ СЯСТРОЙ ТРЫМАЦЬ ЗМОВІНЫ Ў ТАЯМНІЦЫ ГОД... ДАКЛАДНЕЙ – ДА НОЧЫ СВЯТКАВАННЯ ДНЯ ПАМЯЦІ.


І ШТО?
А ТО, ШТО ВЫ ПАВЕДАМІЛІ ГЭТА МНЕ І БОЗЛІ ЯШЧЭ ЗА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ДА СВЯТКАВАННЯ.


ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО Я ЛІЧЫЎ, ШТО ЯЕ ЗАБІЛІ! ТОЛЬКІ Ў АДКАЗ НА ПЫТАННІ АФІЦЫЯЛЬНАГА РАСЛЕДВАННЯ!


І ВЫ ПАРУШЫЛІ ЎМОВЫ ДАМОВЫ. ВЫ ЗРАБІЛІ ЯЕ НЕСАПРАЎДНАЙ.
ВАМ ЯШЧЭ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО МЫ ЖАДАЕМ АДДАЦЬ ГРОШЫ, ЯКІЯ ВЫ ЗГУБІЛІ. МЫ НЕ АБАВЯЗАНЫЯ.


Я ГЭТАГА НЕ ВЫТРЫВАЮ!
ТАДЫ Я НЕ МАЮ ІНШАГА ВЫБАРУ, АКРАМЯ ЯК ЗАБРАЦЬ ГРОШЫ І ЗВІНАВАЦІЦЬ ВАС У ЗАМАХУ НА ЗАБОЙСТВА ДЖЭКА, КАЛІ ЁН БЫЎ У ТУРМЕ.


НАЖАЛЬ, ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ВАША ГАЛАВА ПОЙДЗЕ ЗА ГАЛОВАМІ ВАШЫХ БЫЛЫХ ЖОНАК.
ЖЫХ, ЖЫХ... І ЗУСІМ НЕ МУЖЫК!




УГОДА ТАКАЯ, ДЗЕТКІ.


ВЫ АБОДВА ЗАСТАЕЦЕСЯ Ў СПАКОЮ І ПАЗБЯГАЕЦЕ ТУРМЫ.
АЛЕ ВЫ ЎМОЎНА ВЫЗВАЛЕННЫЯ І ПАВІННЫ АДПРАЦАВАЦЬ 200 ГАДЗІН НА ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ І ВЫПЛАЦІЦЬ 40,000 ДАЛЯРАЎ ШТРАФУ.


АЛЕ У НАС НЯМА ТАКІХ ГРОШАЙ...
УСЁ РОЎНА ШТО З КОЖНАГА ПА МІЛЬЁНУ...


БУДУЦЬ ДА КАНЦА ДНЯ.
МАЕ КРЫНІЦЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ, ШТО БЫЛЫ ЦУДОЎНЫ ПРЫНЦ ЖАДАЕ ВЫПЛАЦІЦЬ СТОЛЬКІ, КАБ АТРЫМАЦЬ ЗНОЎ СВАЕ ЗЕМЛІ І ТЫТУЛ.


І ШТО? НІХТО НІЧОГА НЕ АТРЫМЛІВАЕ?
АТРЫМАЦЬ СВАБОДУ – ГЭТА НАВАТ БОЛЕЙ, ЧЫМ ВЫ ЗАСЛУГОЎВАЕЦЕ.
І ВЫ ЗАХАВАЕЦЕ ЯЕ, КАЛІ БУДЗЕЦЕ ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ЯК СЛЕД.


І ПАСЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА МЫ МАГЛІ ЖЫЦЬ ДОЎГА І ШЧАСЛІВА... БОЛЕЙ ЦІ МЕНЕЙ.


БАЮСЯ, ШТО ХУТЧЭЙ МЕНЕЙ ЧЫМ БОЛЕЙ.
НІХТО НЕ ШЧАСЛІВЫ... АЛЕ МЫ УТРЫМАЛІ ІХ АД ЗАБОЙСТВА АДЗІН АДНАГО.


ДЛЯ МЯНЕ ГЭТА ДАСТАТКОВА.
ГЭТА БЫЎ ДОЎГІ, НУДНЫ ДЗЕНЬ. Я АФІЦЫЯЛЬНА СТОМЛЕНАЯ.
АЛЕ ТЫ ДОБРА СПРАВІЛАСЯ. ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я ПАБАЧЫЎ ТВАЮ ПРАЦУ, Я БЫЎ ВЕЛЬМІ ЎЗРАДАВАНЫ, ШТО МЫ НА АДНЫМ БАКУ.


НЕ. УСЁ, ШТО Я ЗРАБІЛА - ВЫКАРЫСТАЛА ТВОЙ АЎТАРЫТЭТ. ТЫ ЗБАВІЦЕЛЬ. ТЫ ЎСЁ ЎДАКЛАДНІЎ.
ТЫ ВЕЛЬМІ ЗДАТНЫ ДЭТЭКТЫЎ.


ТОЛЬКІ ТАК ТЫ МОЖАШ МЯНЕ ПАХВАЛІЦЬ?
ТОЛЬКІ ТАК...


ТАК?
ВОСЬ ЧАГО Я НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ. НАВОШТА Я БЫЛА ПАТРЭБНАЯ ТАБЕ Ў ЯКАСЦІ СПАДАРОЖНІЦЫ НА СВЯТКАВАННІ ДНЯ ПАМЯЦІ?
Я ЎСЁ ТАДЫ РАСТЛУМАЧЫЎ.


НЕ, НЕ РАСТЛУМАЧЫЎ. ТЫ КАЗАЎ, ШТО ГЭТА БЫЛО ПАТРЭБНА ДЛЯ СПРАВЫ. АЛЕ ТЫ НІКОЛІ НЕ КАЗАЎ ЧАМУ. ЯК ГЭТА ДАПАМАГЛО? НАВОШТА ГЭТА БЫЛО ПАТРЭБНА?
ДУМАЮ, ПРЫЧЫНА ВІДАВОЧНА.


ТАДЫ Я СЁННЯ ЗУСІМ ДУРНАЯ, І МНЕ ТРЭБА ТЛУМАЧЫЦЬ УСЁ ВІДАВОЧНАЕ.
Я ЖАДАЎ, КАБ ТЫ ПАЙШЛА НА ТАНЦЫ Ў ЯКАСЦІ МАЕЙ ДЗЯЎЧЫНЫ.


СУР’ЁЗНА? ТЫ БАЯЎСЯ... ЦІ БЫЎ СЦІПЛЫМ... ТЫ ПАПРАСІЎ МЯНЕ ПАЙСЦІ НА БАЛЬ, БО ГЭТА БЫЛО ЗВЯЗАНА З СПРАВАЙ.
НУ, ШТОСЬЦІ ПАДОБНАЕ ДА ТАГО.
ГЭТА ПАТЭТЫЧНА.
СУР’ЁЗНА? Я СПАДЗЯВАЎСЯ НА ШТОСЬЦІ ЧАРОЎНАЕ.


ЯНО ТАКІМ НЕ БЫЛО. НЕ РАБІ ТАК БОЛЕЙ. МЫ Ж КАЛЕГІ.
ДОБРА.


СУР’ЁЗНА, БОЗЛІ. БОЛЕЙ НІКОЛІ.
ЗРАЗУМЕЛА, ЛЕДЗІ. ПАВЕДАМЛЕННЕ АТРЫМАЎ.
КАНЕЦ. ПАКУЛЬ ШТО.